*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*




# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 30 лістапада 1990 г. № 48 (3562) ● Цана 10 кап.


## САМАЯ КАМУНІСТЫЧНАЯ

**Чуткі пра палітычны занялад КПБ аказаліся яўна перабольшанымі. 28 лістапада ў Мінску адкрыўся яе XXXI з'езд. Ва ўласцівай важаку рэспубліканскай партарганізацыі манеры Яфрэм Сакалоў яшчэ раз цвёрда заявіў аб непахіснасці сацыялістычнага выбару. Больш таго, прапанаваў новую назву краіны — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Суверэнных Дзяржаў, павялічыўшы, такім чынам, колькасць свісцячых гукаў у абрэвіятуры...**

Напярэдадні адкрыцця з'езда ў рэдакцыю пазваніў чытач, работнік Мінскіх кабельных электрасетак, і паведаміў, што ў Доме афіцэраў, дзе будзе праходзіць партыйны форум, устаноўлена перасоўная дызель-электрастанцыя. Кажучы тэхнічнай моваю, дзеля павышэння надзейнасці бесперабойнага электразабеспячэння аб'екта.

Не ведаю, магчыма, так і трэба ў падобных выпадках. Але ў самім гэтым факце мне бачыцца... метафара. Азіраючыся на мінулыя пяць перабудовачных гадоў, нельга не аддаць належнае той руплівасці, з якой КПСС (і «самастойная ў складзе» КПБ) павышала надзейнасць свайго «электразабеспячэння». Як слушна заўважае І. Клямкін, «за пяць гадоў старая ўлада паспела сябе перабудаваць, каб праводзіць рэформы па-свойму, дэмакратыя ж не паспела сябе пабудаваць, каб скласці канкурэнцыю ўладзе». І вось, калі аціхла палітычная эйфарыя, высветлілася, што, нягледзячы на ўсе дэкларацыі і нават змены канстытуцыйнага характару, «партыя-авангард» не страціла сваіх уладных функцый. Яны замацаваны і заканадаўча, і, што сёння найбольш важна, матэрыяльна—праз канцэнтрацыю ў руках кампартыі велізарных сродкаў.

«Загадана выжыць!» Партакратыя загад гэты выканала. І нават у 1990 годзе дазволіла сабе дрымучы «фундаменталізм», які ўжо ў 1985-м здаваўся безнадзейна састарэлым. Маю на ўвазе справаздачны даклад, з якім на XXXI з'ездзе КПБ выступіў Я. Сакалоў. Сапраўды: «Мяняліся члены бюро, сакратары ЦК, а лінія заставалася».

І застанецца?

**А. ГАНЧАРОЎ.**

# З ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ, ЛЮБОЎЮ

**Сёння завяршаецца Усесаюзны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень»**




Скарыне прысвячаецца...

Значыць, не ўсё яшчэ страчана, калі едуць да нас добрыя госці, калі мы прымаем іх з нязменнаю зычлівасцю, калі цікавімся іх мастацтвам. І радуемся сустрэчы, і спадзяёмся на новую... Хто ведае, можа гэты традыцыйны «фестывальны пасыл» акумулюе ў нашай грамадскай атмасферы так неабходныя сёння духоўнасць, мудрасць, спагаду, ствараючы заслону падазронасці, нецярпімасці, зласлівасці, адчаю?

Прыпыніцеся ўвечары ля парога філармоніі: колькі пройдзе сюды людзей са змучанымі тварамі, стомленымі, расчараванымі вачамі — сама што на канцэрт... Але ў антракце іх ужо не пазнаць: куды падзеліся змрочныя позіркі!

Гаючую сілу музыкі адчулі на сабе тыя, хто слухаў магутную сімфанічную мову Р. Вагнера — увесь вечар іграў фрагменты з ягоных опер Акадэмічны маскоўскі аркестр пад кіраўніцтвам П. Когана, адкрываючы фестывальную дэкаду ў Мінску. Назаўтра госці выконвалі творы Ф. Шуберта, П. Чайкоўскага і А. Пятрова (упершыню ў нас прагучаў яго Фартэпіянны канцэрт, саліраваў амерыканец Д. Хан). Потым — новы пасыл узнёслых пачуццяў: «Літургія святога Іаана Златавуста» П. Чайкоўскага ў выкананні славутай рускай капэлы імя А. Юрлова (кіраўнік С. Гусеў). Яшчэ адзін магічны вечар — унікальны контртэнар Э. Курмангаліева ў творах І.-С. Баха, А. Вівальдзі... А які светлы матыў надзеі прасякваў выступленні да самазабыцця ўлюбёных у музыку стыпендыятаў Цэнтра мастацтваў «Юныя таленты», сярод якіх мінчане, масквічы, дзеці з Ташкента, Кліна.

Пра ўсіх гасцей нашай «восені» і не скажаш. Тым болей, маршруты іх, як заўсёды, пралеглі праз усю рэспубліку. Дарэчы, і праз тыя 23 залы камернай музыкі, што ў парадку эксперыменту адкрыліся на Міншчыне і ўжо няблага сябе зарэкамендавалі.

**А гаспадары фестывалю? Яны сёлета на ўзроўні. Дастаткова, напрыклад, нагадаць, у якой цёплай і натхнёнай атмасферы праходзіў аўтарскі вечар кампазітара Г. Гарэлавай, чые камерныя творы прагучалі ў выкананні лепшых музыкантаў. Або ўспомніць дэбют такога доўгачаканага мінскага аркестра духавых інструментаў пад кіраўніцтвам А. Берына: калектыў гэты, названы «Няміга», паказаў ёмістую, разнапланавую і самабытную праграму.**

**Асаблівым сэнсам і духам поўніўся канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, прысвечаны 500-годдзю Скарыны. (Дарэчы, праз пару дзён тая праграма была паказана ў Маскве, яе фрагменты — на здымках).**

**Прыемна здзівіў мінчан Дзяржаўны камерны аркестр БССР пад кіраўніцтвам В. Собалева: два вечары ён іграў — і гучаў выдатна, выразна! — у аркестравай яме опернага тэатра. Нашы музыканты выступалі са сваімі партнёрамі з германскага горада Штутгарта, тэатрам «Эўрытмеум», якім кіруе Э. Клінк. Мове яго, эўрытміі, нам яшчэ трэба вучыцца, бо тэатр не падобны ні на што: па сутнасці не мае амаль нічога агульнага з харэаграфіяй ці пантамімай, збліжаецца хіба толькі з мастацтвам дырыжора. «Эўрытмеум» упершыню ў СССР, а наш аркестр суправаджае яго ў гастрольным турнэ — жаданне кіраўніцтва тэатра.**

Апошні дзень фестывалю ў Мінску па-свойму адметны. Смаленскі рускі народны аркестр пад кіраўніцтвам заслужанага артыста БССР, народнага артыста РСФСР В. Дуброўскага і аркестр народнай музыкі з Малдовы «Флуераш» пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР С. Лункевіча сустракаюцца ў заключным канцэрце «Беларускай музычнай восені». Так і хочацца сказаць: музыка межаў не ведае, мастацтва яднае людзей, хараство ўратуе свет... Фразы, канечне, старыя, банальныя. Але — дайце веры мастацтву.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота Ул. КРУКА.



«Ідзе, ідзе карагод...»



Музыкі беларускія: У. Пузыня з сынам Алесем.

# Успомнілі Андрэя Макаёнка



Пра А. Макаёнка — драматурга, сябра і паплечніка — расказвае І. Шамякін.

Фота Ул. КРУКА.

**Грамадскасць Мінска адзначыла 70-годдзе з дня нараджэння Андрэя Макаёнка ў тэатры імя Янкі Купалы. Вядучы — народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, У. Казбярук, П. Васілеўскі, А. Петрашкевіч, народная артыстка рэспублікі М. Захарэвіч адзначалі значнасць таго ўкладу, які ўнес ён у развіццё не толькі беларускай, але і савецкай шматнацыянальнай літаратуры; падкрэслівалі, што А. Макаёнак сваімі творамі па сутнасці набліжаў перабудову, рашуча і бескампрамісна змагаючыся з усім негатыўным, што характарызавала застойныя гады.**

**У вечары прыняў удзел сын Андрэя Ягоравіча Сяргей Макаёнак.**

**Былі паказаны ўрыўкі са спектакляў «Трыбунал», «Верачка», «Пагарэльцы».**

**У фае была наладжана фотавыстаўка з жыцця і творчасці А. Макаёнка.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

# МАСТАЦТВА І РЫНАК

### Пленум Саюза мастакоў Беларусі

**21—22 лістапада ў канферэнц-зале мінскага Палаца мастацтваў праходзіў чарговы пленум праўлення Саюза мастакоў Беларусі. У першы дзень работы пленума абмяркоўваўся стан «манументальнай прапаганды» і афарміцельскага мастацтва на Беларусі.**

**Сярод іншых паўстала пытанне аб помніках Леніну, якія зараз «у рабоце» і маюць быць устаноўлены ў бліжэйшы час; колькі такіх помнікаў, дзе плануецца іх паставіць, колькі гэта будзе каштаваць? Толькі так званая творчая частка работы па кожным помніку каштуе не меней за 60 тысяч рублёў, не меней за 300 тысяч — устаноўка. Усяго плануецца ўстанавіць у БССР адзінаццаць новых помнікаў Леніну. Акруглена каштаваць гэта будзе не меней чатырох мільёнаў рублёў. Дарэчы, за ўсю гісторыю беларускай манументальнай Ленініяны Камуністычная партыя ні разу не выступала ў якасці заказчыка — грошы заўжды бралі са сродкаў, якія прызначаліся на культуру (з тых самых 0,7 працэнта рэспубліканскага бюджэту).**

**На другі дзень абмяркоўваліся арганізацыйныя пытанні. Выступаючыя гаварылі пра тое, што ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі Саюз мастакоў болей не з'яўляецца творчай арганізацыяй, а ў асноўным (хто кажа — выключна) арганізацыяй размеркавальнай. Праўда, калі раней размяркоўваліся кватэры і машыны, дык зараз — фарбы і папера (тое, што мастаку неабходна для работы і што адносна нядаўна можна было лёгка набыць у краме).**

**Абмяркоўваліся магчымасці выжывання мастака ва ўмовах жорсткай падаткавай палітыкі дзяржавы. Сёння мастаку выгадней адкрываць уласны рахунак у банку, чым рэалізоўваць свае творы праз сістэму Саюза мастакоў. Фактычна рынак у галіне мастацтва ўжо распачаўся, мастака проста штурхаюць да «індывідуальнай працоўнай дзейнасці». Праўда, адзначалася, што ўсё ж не варта заставацца адзін на адзін з дзяржавай і трэба трымацца творчага саюза, як пэўнага гаранта сацыяльнай абароненасці творцы.**

**На пленуме былі абраны дэлегаты на рэспубліканскі форум «Інтэлігенцыя ў нацыянальным Адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі».**

**НАШ КАР.**

# «НАША ДОЛЯ»

**Пра тое, што Цэнтральнае праўленне Беларускага таварыства інвалідаў пачало выдаваць сваю газету «Наша доля», мы паведамлялі ўжо. Пра тое, што гэта будзе за выданне, пра галоўныя накірункі яго дзейнасці нашаму карэспандэнту расказаў рэдактар «Нашай долі» Іван КАПЫЛОВІЧ. У прыватнасці, ён паведаміў:**

**— У інвалідскім руху сёння нямала праблем. Галоўная з іх — сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў (у рэспубліцы іх больш за 400 тысяч), іх працаўладкаванне, набыццё прафесіі. Пра гэта найперш і павядзе гаворку на сваіх старонках «Наша доля».**

**Вядома, не будзе газета абмінаць і іншых вострых праблем сучаснага жыцця — палітычных, эканамічных, культурных.**

**Чытач знойдзе на старонках «Нашай долі» разнастайную інфармацыю, кансультацыі спецыялістаў па пенсійным забеспячэнні інвалідаў, рэкамендацыі па іх працаўладкаванні, сацыяльнай абароненасці. У сваёй газеце інваліды знойдуць адказы на ўсе хвалюючыя іх пытанні, у тым ліку адносна вытворчасці і набыцця інватэхнікі.**

**«Наша доля» мяркуе змяшчаць на сваіх старонках літаратурна-мастацкія творы — вершы, апавяданні, у тым ліку фантастыку і дэтэктывы.**

**Індэкс газеты «Наша доля» 63866. Кошт гадавой падпіскі — 4 рублі 80 капеек. Газета будзе выходзіць на беларускай і рускай мовах.**

### ПАВАЖАНЫ РЭДАКТАР!

Дазвольце праз вашу газету шчыра падзякаваць усім, хто ўспомніў і павітаў мяне з прычыны майго 85-годдзя.

Ян СКРЫГАН.

**тупленне на дэмакратычныя сілы грамадства. Для гэтага ўзяў ён сваю старую, даўно выпрабаваную ім у ідэалагічных бітвах зброю — хлусню, падтасоўку фактаў. І вось ізноў пярэсцяцца партыйныя выданні «пісьмамі працоўных» са штампаванай афіцыйнай фразеалогіяй, рэзалюцыямі ўсялякіх сходаў, абавязкова поўнымі «возмущения»; ізноў публічна — каторы ўжо раз! — шукаецца кампрамат у біяграфіі святара Надсана; ізноў пускаюцца на часопісныя старонкі ахвотнікі зняважыць, зганьбіць беларускіх пісьменнікаў, пачынаючы ад паважанага ва ўсім свеце Васіля Быкава і канчаючы маладзейшымі літаратарамі — толькі за тое, што яны, бачыце, не хочуць ісці «указанным путём», не жадаюць трымацца струхлелых догмаў, а думаюць па-свойму. Ствараецца ўражанне, што на тых, хто не мірыцца з манаполіяй адной партыі на грамадскую думку, на ўсіх «непажаданых», гаворачы радкамі апублікаванага ў часопісе «Полымя» верша Івана Карэнды, —**

Зноў палюе драпежная зграя,
Праклінаючы імя і род,
У паветры бацькоўскага краю
Невыносны, нясцерпны смурод.

**Кастусь ЦВІРКА.**



# РЭСПУБЛІКА, СУВЕРЭНІТЭТ, АРМІЯ

**З камандуючым войскамі Беларускай ваеннай акругі, народным дэпутатам СССР, генерал-палкоўнікам А. КАСТЭНКАМ гутарыць карэспандэнт «ЛіМа» М. ЗАМСКІ.**

**Кастэнка Анатолій Іванавіч. 51 год. Нарадзіўся на Кубані ў сям'і сельскага механізатара. Бацька, у вайну механік-вадзіцель танка, загінуў у 1944 годзе пры вызваленні Венгрыі.**

**Будучы камандуючы войскамі БВА ўпершыню надзеў пагоны адзінаццацігадовым падлеткам пасля паступлення ў Сувораўскае вучылішча. Першая яго афіцэрская пасада—камандзір узвода. На працягу наступных гадоў прайшоў многія ступені ваеннай кар'еры: камандзір палка, дывізіі, камандуючы арміяй... Апошнія два гады займае вышэйшую прыступку ў каманднай іерархіі Беларускай ваеннай акругі, з'яўляючыся камандуючым яе войскамі. Жанаты, мае двух дарослых сыноў.**

— Камандуючы чакае вас у панядзелак у дванаццаць трыццаць,—сказаў мне па тэлефоне яго дэпутацкі памочнік Васіль Дзмітрыевіч Баранаў.—Не спазніцеся.

За дзесяць хвілін да прызначанага тэрміну быў я ля знаёмага мінчанам комплексу будынкаў Упраўлення акругі, што размясціўся на пагорку па-над Свіслаччу. Недзе чытаў, што гэта геаграфічна самае высокае месца ў Мінску. Чуў і такое: аўтары праекта будынка опернага тэатра — ён размешчаны непадалёк,—былі ў трыццатых гадах рэпрэсіраваны за тое, што «прывязалі» той тэатр да месца, якое відно з... Польшчы: граніца тады праходзіла ля Негарэлага... У трыццаць дзевятым граніцу ад Негарэлага адсунулі далёка на захад і цяпер, дзякуй Богу, разгледзець з-за мяжы і тэатр, і Упраўленне ваеннай акругі немагчыма нават у самы моцны бінокль.

Па шырокай лесвіцы падымаемся на другі паверх, заходзім у прыёмную камандуючага. Яго паручэнец папярэджвае, што прыйдзецца хвілінку пачакаць — у Кастэнкі наведвальнік. Нарэшце той выходзіць, і я, падхапіўшы дыпламат, накіроўваюся ў кабінет. «Адну хвілінку,—спыняе паручэнец,—у вас ёсць дыктафон?» Адказваю сцвярджальна. «Калі ласка, пакіньце яго тут, з сабой вазьміце толькі блакнот і ручку». «А мо спытаць дазволу ў самога Анатоля Іванавіча?»—прыходзіць мне на дапамогу І. Баранаў. З тым і заходзім у кабінет камандуючага.

А. Кастэнка, высокі, падцягнуты, з твару вельмі маладжавы, запрашае да стала. Тут жа вырашаем «пытанне» аб дыктафоне: камандуючы не супраць. Аглядаюся наўкол. Масіўная мэбля—пісьмовы стол, перад ім — меншы з двума крэсламі, ля сцяны яшчэ адзін стол—доўгі, з крэсламі паабапал. Стандарт, здаецца, раз і назаўсёды ўсталяваны ў кабінетах міністраў, высокапастаўленых партыйных функцыянераў і, як цяпер бачу, высокіх ваенных чыноў...

Камандуючы загаварыў упэўнена, па-ваеннаму напорыста, з валявымі ноткамі ў голасе. Выкарыстаўшы невялікую паўзу, задаю пытанне. А. Кастэнка, хутка зірнуўшы на мяне, ледзь прыкметна ўсміхаецца: «Вы хочаце павярнуць гаворку ў іншае рэчышча? Што ж, вы мой госць, хай будзе па-вашаму...»

Вось што занатаваў мой магнітафон.

**М. ЗАМСКІ:—Заўсёды лічылася, што кожнае пытанне, якое тычыцца ваеннай галіны, звязана з ваеннай тайнай. Задаць яго ўголас, значыць зрабіць замах на святая святых краіны—яе абаронную магутнасць. Справа, часам, даходзіла да кур'ёзу — цэнзарамі Галоўліта забаранялася, напрыклад, пісаць пра дамы афіцэраў, акрамя мінскага і бабруйскага. Армія наша прывыкла быць па-за крытыкай і, відаць, таму і зараз, калі на двары іншы час, ваенныя па-ранейшаму нервова ўспрымаюць кожнае крытычнае слова па сваім адрасе, імкнучыся даказаць, што армія з'яўляецца лепшай часткай грамадства. Але ж армія не можа не мець адмоўных рысаў, характэрных для ўсяго грамадства.**

А. КАСТЭНКА:—Так, нельга не пагадзіцца з тым, што армія доўгі час была закрытай часткай грамадства.

Не адмаўляючы праблем у арміі, мы імкнёмся звесці іх да мінімуму, прымаем канструктыўную крытыку і ўдзячны за дапамогу, якая дазваляе пазбаўляцца ад недахопаў, фарміраваць у людзях лепшыя якасці. Але мы катэгарычна супраць суцэльнага ачарнення арміі. Больш чым дастаткова прыкладаў, калі некаторыя «сур'ёзныя» абагульненні робяцца з незвычайнай лёгкасцю, часам тэндэнцыйна.

Што тычыцца «закрытасці» арміі, дык мы ні перад кім не зачыняем дзверы нашых вайсковых часцей і гарнізонаў. Калі ласка—бацькі, прадстаўнікі грамадскасці, народныя дэпутаты, дзеячы культуры, — прыходзьце, глядзіце, знаёмцеся. Але просім аднаго—разумення рэалій сённяшняга дня, аб'ектыўнага падыходу да нашых цяжкасцей.

Галоўны ідэал, на якім выхоўваецца сёння армейская моладзь, — гэта служэнне свайму народу, народу, які і ў радасцях, і ў няшчасці глядзіць на армію са спадзяваннем і верай ў яе здольнасць абараніць інтарэсы Айчыны. Я не кажу ўжо аб тым, што менавіта армія выхоўвае ў моладзі лепшыя чалавечыя якасці — пачуцці патрыятызму, інтэрнацыяналізму і, па высокім рахунку,—гуманізму.

**— Відаць, гэтымі якасцямі не паспелі авалодаць воіны генерала Радзіонава ў час тбіліскіх падзей... Як вы лічыце, таварыш камандуючы, ці павінна армія ўдзельнічаць у разгоне тых жа дэманстрацый, мітынгаў, мірных шэсцяў і да т. п.? На маю думку, гэта не функцыя Узброеных Сіл...**

— Я згодны з вамі. Калі гаворка ідзе пра мірныя шэсці, дэманстрацыі і мітынгі, то зусім відавочна, што неабходнасць такой функцыі, з чыйго б там ні было боку, адпадае ўвогуле. Аднак у бурных падзеях нядаўняга часу, у тым ліку і тбіліскіх, Узброеныя Сілы вымушаны былі нярэдка выступаць адзіным, падкрэсліваю, гарантам бяспекі і мірнай працы людзей.

**— Створаная на З'ездзе народных дэпутатаў СССР камісія па расследаванні тых падзей, наколькі я памятаю, прыйшла да іншых высноў... Але не будзем паглыбляцца ў гэтую тэму, хоць ні для каго не з'яўляецца сакрэтам, што наша армія ўмешваецца і ў міжнацыянальныя канфлікты...**

— Па-вашаму, правільней было б глядзець на ўсё гэта збоку? Але калі льецца кроў, калі ахвярамі пагромаў і гвалту робяцца тысячы ні ў чым не вінаватых людзей старыя, жанчыны і дзеці, калі сотні тысяч вымушаны кідаць абжытыя месцы, пакідаць свой дом, робячыся бежанцамі ва ўласнай краіне, армія не можа заставацца безудзельнай, яна, пры адсутнасці іншай сілы, павінна абараняць мірнае жыццё савецкіх людзей, законнасць і правапарадак. Гэта мая асабістая думка.

**— Тым не менш, цяжка змірыцца з тым, што далёка ад дому рызыкуюць жыццём апранутыя ў салдацкія шынялі і беларускія хлопцы. Гэтае пытанне, як вы, таварыш камандуючы, ведаеце, неаднойчы ўзнімалася ў Вярхоўным Савеце рэспублікі, на шматлікіх мітынгах БНФ, сустрэчах салдацкіх маці. Моладзь, прызваная ў армію на Беларусі, павінна тут і служыць. У кантэксце гэтай праблемы хацелася б ведаць вашу думку наконт стварэння ў рэспубліцы нацыянальнага войска. Гэтае пытанне знайшло сваё адлюстраванне ў прынятай Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.**

— Я, у прынцыпе, не падтрымліваю ўмяшальніцтва арміі, а ў яе складзе, вядома, і беларускіх хлопцаў, у міжнацыянальныя канфлікты, у якой бы якасці яны там ні выступалі. Занепакоенасць нашых грамадзян тут зусім апраўдана. Выказаў да дадзенай праблемы сваё стаўленне і Вярхоўны Савет рэспублікі. Але, разам з тым, я не магу не лічыцца з рэаліямі сённяшняга дня і супраць таго, каб, так сказаць, займаць вядомую пазіцыю страуса. Чатыры гады назад, калі перакрывалася дыханне чарнобыльскага атамнага монстра, перад сярэднеазіяцкімі, украінскімі, расійскімі і прыбалтыйскімі хлопцамі не ставілася пытанне — чыя гэта бяда?

Цяпер аб нацыянальных Узброеных Сілах. Так, у артыкуле дзесятым Дэкларацыі аб суверэнітэце сказана, што Беларуская ССР мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, валодае суверэнным правам вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы. Дух нацыянальнага адраджэння ў Беларусі нельга не вітаць. Але ў пастаноўцы кожнага пытання, якое датычыць Узброеных Сіл, я, як чалавек ваенны, прывык узважваць усе «за» і «супраць». Так, сапраўды, некалі ў Беларусі былі свае нацыянальныя фарміраванні, але механічна пераносіць формы будаўніцтва Узброеных Сіл на сённяшні дзень, па маім глыбокім перакананні, нельга. З'явіліся новыя віды і роды войск ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння, атамны падводны флот, са-

**(Працяг на стар. 14—15).**

## З пошты «ЛіМа»

# •Яшчэ крок да бяспамяцтва
# •«Сябры не падвядуць!»
# •Дзе і як нам рыхтаваць сваіх дыпламатаў?

□

Абязмоўленасць, нацыянальны нігілізм, бяспамяцтва... Гэты плён намаганняў паланізатараў і русіфікатараў усіх адценняў, вынік камуністычнага будаўніцтва і «небывалага росквіту сацыялістычнай культуры» спараджае сёння, у час, што мы называем нацыянальным абуджэннем і адраджэннем, безліч праблем, якіх у цывілізаваным культурным грамадстве проста не існавала б. Адна з такіх праблем узнікла ў сувязі з вяртаннем вернікам незаконна забраных калісьці храмаў, многія з якіх з'яўляюцца каштоўнымі архітэктурнымі помнікамі.

Ці варта даводзіць, што дойлідства, своеасаблівы каменны летапіс — адна з галоўных частак культуры? Архітэктура заўсёды глыбока ўплывала на нацыянальны характар і самасвядомасць. Сказанае найбольш датычыць храмаў, што спрадвеку былі для дойлідаў вобразамі і мадэлямі Сусвету, найвышэйшаю формаю ўвасаблення эстэтычных ідэалаў народа. Усё гэта цудоўна разумелі натхняльнікі і выканаўцы злачыннай праграмы зліцця нацый і стварэння бязроднай і безаблічнай «новой этнической общности», прыдатнай для любых сацыяльных эксперыментаў.

Руйнаванне помнікаў нацыянальнай архітэктуры ў нашай рэспубліцы было прыпынена толькі ў 80-я гады. Рэстаўрацыя Сафійскага сабора ў Полацку, менскай Петрапаўлаўскай царквы, кальвінскага збору ў Заслаўі сталіся першымі крокамі на шляху вяртання Беларусі яе бясцэннай архітэктурнай спадчыны, у якой адлюстраваны досвяд еўрапейскага дойлідства з усімі яго стылямі.

Нарэшце храмы вяртаюцца тым, каму яны і павінны належаць. Здавалася б, справядлівасць святкуе перамогу. Але...

Творчая група кваліфікаваных спецыялістаў з «Белрэстаўрацыі» распрацавала праект аднаўлення аўтэнтычнага выгляду Святадухаўскай царквы Куцеінскага Багаяўленскага манастыра ў Оршы. Аднак, як толькі храм набыў новых гаспадароў— вернікаў, ажыццяўленне праекта апынулася пад пагрозаю.

Мясцоваму праваслаўнаму святару здалося, што першапачатковае аблічча гэтага помніка 1-й паловы XVII стагоддзя — «каталіцкае». Адноўлены храм камусьці вельмі хочацца бачыць у выглядзе царквы-«мураўёўкі» XIX стагоддзя, якіх багата панастаўлялі на нашай зямлі тыя, хто, скасоўваючы унію, забараняючы беларускую мову, душачы вызваленчы рух, праводзіў палітыку, заснаваную на вядомай трыядзе: «самодержавие — православие — народность».

У барацьбе супроць навукова абгрунтаванага прафесійнага праекта ў ход пайшлі нават пагрозы галадоўкі вернікаў. Па сутнасці, як ужо не раз бывала ў нашай гісторыі, беларусаў зноў маглі падштурхнуць выступіць супроць сваёй жа культуры.

На сённяшні дзень страсці вакол Святадухаўскай царквы нібыта ўгамаваліся, і рэстаўратары працягваюць сваю працу. Але ставіць кропку ў гэтай гісторыі рана, бо канфлікт у Оршы — не выключэнне, а хутчэй — пры нашым узроўні свядомасці — першы трывожны званок.

Мы перакананыя ў неабходнасці далейшай перадачы храмаў іх законным гаспадарам, аднак толькі пры ўмове абавязковага захавання помнікаў беларускага дойлідства — скарбаў нашае нацыянальнае культуры, без якіх немагчыма сапраўднае адраджэнне народа. Адказнасць за гэта павінны ўзяць на сябе як свецкія, так і духоўныя ўлады ўсіх беларускіх канфесій.

**Уладзімір АРЛОЎ,**
**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**Мікола КУПАВА,**
**Аляксей МАРАЧКІН.**

□

Толькі што ў кіёсках «Саюздруку» Украіны з'явіўся першы нумар газеты Рады Міністраў Украіны «Урядовий кур'ер». З цікавасцю пазнаёміўся я з матэрыяламі новай газеты. Асабліва мне спадабаўся рэпартаж М. Журбы «Сябри не підведуть!». У ім аўтар апавядае аб падпісанні пагаднення паміж дэлегацыямі Беларусі і Украіны аб двухбаковым супрацоўніцтве на 1991 год. Скажаце, ну і знайшоў чалавек у гэтым сенсацыю: Беларусь ужо такіх пагадненняў вунь колькі падпісала: з Азербайджанам, Таджыкістанам, Кіргізіяй і г. д.

Не спяшайцеся з высновамі, бо «сенсацыя» зусім не ў падпісанні пагаднення, а ў тым, якой мовай карысталася ў Кіеве дэлегацыя Беларусі, якую ўзначальвалі М. Дзямянцей і В. Кебіч, здагадаліся? Бе-ла-рус-кай! М. Журба так і піша (даю ў арыгінале): «І на завершення — одна промовиста деталь. За столом переговорів члени делегації України говорили українською мовою, Білорусії — білоруською. І обидві сторони чудово розуміли одна одну».

Дайце веры!

**П. КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў.

□

Апошнім часам у сродкі масавай інфармацыі пранікаюць звесткі аб маючай адбыцца буйнамаштабнай перадыслакацыі вайсковых падраздзяленняў з краін Усходняй Еўропы на тэрыторыю Беларусі. Няма патрэбы яшчэ раз даказваць, як гэта магло б уплываць на і без таго цяжкі і марудны працэс адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Але гэтая праблема мае яшчэ адзін аспект, які, на маю думку, дарэмна застаецца па-за ўвагай грамадскасці.

Справа ў тым, што Савецкая Армія мае разнастайны нацыянальны склад, але гэта ў асноўным, вядома, мужчынскі кантынгент. І трэба заўсёды наперад падумаць, як гэты фактар будзе ўплываць на сітуацыю, якая складваецца ў той або іншай мясцовасці.

У дадзеным выпадку гаворка будзе аб тэрыторыі, падвергнутай радыеактыўнаму забруджанню. Я пастаянна жыву ў Гомелі і магу бачыць, што адбываецца тут на працягу апошніх гадоў.

Многія з жыхароў горада і вобласці, асабліва сярод тых, хто не мае сям'і, задумваюцца аб перамене месца жыхарства. Задумваюцца і пераязджаюць. Аднак у паводзінах мужчын і паводзінах жанчын маюцца істотныя адрозненні. Мужчына, як правіла, больш прывязаны да месца работы, гады, адпрацаваныя на адным месцы, дадаюць яму аўтарытэту, павялічваюць магчымасць рухацца па службовай лесвіцы. Нейкая знешняя небяспека, да таго ж да пэўнага часу не адчувальная фізічна, турбуе яго далёка не ў першую чаргу.

Не тое жанчына. Для жанчыны найпершае — адчуванне ўтульнасці, адсутнасці небяспекі для сябе і для сваіх дзяцей — якія ўжо ёсць ці якіх яшчэ няма.

Так што першымі адсюль едуць жанчыны, і, канечне ж, не самыя горшыя з цудоўнай палавіны чалавецтва. Працэс гэты толькі набывае моцы, але і цяпер ужо даволі адчувальны. Значна паменела на вуліцах Гомеля маладых, прыгожых, з густам апранутых жанчын. Гэта асабліва кідаецца ў вочы, калі прыязджаеш сюды з якога-небудзь іншага горада. Адно толькі пустымі паліцамі ў крамах такое не вытлумачыш. Так што мы атрымалі першую адзнаку дэградацыі горада, і цяпер мусім чакаць наступных. І вельмі цяжка сказаць, што тут рабіць, якія меры павінны быць прыняты, каб і надалей захаваць Гомель як буйны прамысловы цэнтр. Гэты горад шмат чаго дае грамадству, дзяржаве, і трэба было б чакаць, каб і дзяржава клапацілася аб дабрабыце і самаадчуванні яго жыхароў. І самае першае, аб чым трэба было б падумаць, — гэта класічнае «не нашкодзь». Не падлівай алею туды, дзе і так не слаба гарыць. Размяшчэнне ў рэспубліцы дадатковага мужчынскага кантынгенту — тут не мае вялікага значэння, з пагонамі ці без пагонаў — узмоцніць і без таго вялікую сацыяльную напружанасць на забруджаных тэрыторыях. Нельга ўвесь час здзекавацца з адных і тых жа людзей, трэба падумаць аб тым, каб непазбежныя цяжкасці пераходнага перыяду былі размеркаваны з улікам абставін, якія ўжо існуюць.

**А. УРБАНОВІЧ.**

г. Гомель.

□

Кожны новы нумар «ЛіМа» гляджу з нецярпеннем: а раптам ЦК КПБ даў адказ нашым пісьменнікам-камуністам на іх ліст-зварот «Каму, якому народу служым?», апублікаваны 5 кастрычніка г. г. Аднак — маўчанне. Няўжо такую цяжкую задачу задалі пісьменнікі нашаму ЦК? Відаць, што цяжкую, бо вось хутка два месяцы, як там наверсе думаюць, што адказаць. А можа, і нічога не адкажуць? Урэшце, нам да такога не прывыкаць...

Але ж ЦК КПБ публічна аб'явіў, што ён перабудаваўся — скараціў штат, памяняў арыентацыю, гуманізаваўся і г. д.

А што мы бачым на справе? У фанце з доўгім адказам, з крызісам беларускамоўных выданняў, з марудным адкрыццём беларускіх школ, як у павелічальным шкле відаць, што нічога сур'ёзна не змянілася. Таму і не дзейнічае Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы: што яго не было, што ён ёсць — вынік амаль аднолькавы. Як ішла русіфікацыя, так і працягваецца і мо яшчэ нават больш актыўна!

Калі ЦК КПБ — за суверэнітэт Беларусі, калі яго хвалюе яе будучыня, то трэба сказаць гэта перад усім народам. Сказаць і даказаць на справе.

А даказаць можна толькі тады, калі орган ЦК КПБ «Коммунист Белоруссии» будзе выходзіць на беларускай мове, калі «Сельская газета» стане беларускай, калі «Заря» і «Гродненская правда» стануць беларускія, «Народная газета» і «7 дней» — таксама.

І яшчэ: калі ў ЦК загавораць па-беларуску.

Я, як і ўсе беларусы, чакаю адказу на зварот пісьменнікаў-камуністаў да ЦК КПБ «Каму, якому народу служым?». З нецярпеннем. З надзеяй.

**У. ДАМАШЭВІЧ.**

г. Мінск.

□

Сцішыліся ўжо спрэчкі пра славутую Дэкларацыю, і складваецца ўражанне, што дакумент гэты здалі ў архіў і думаць пра яго забыліся. Аднак, як вядома, сярод іншых аспектаў незалежнасці закранаецца ў Дэкларацыі і самастойнасць міжнародных дачыненняў. А на якой, цікава, базе? Дзе беларускія дыпламаты? Дзе беларуская паліталогія? Дзе, урэшце, беларускія перакладчыкі? Няма й не відаць. Ці мо задаволімся ў якасці нашых прадстаўнікоў на сусветнай арэне былымі партапаратчыкамі і імпартаванымі з Масквы вялікадзяржаўнымі спецыялістамі? У такім разе пра незалежную міжнародную палітыку Беларусі, дальбог, нават згадваць грэх. Тут мне могуць запярэчыць, што крытыкаваць усе навучыліся. А што прапануеш?

Калі ласка. Ёсць у Мінску дзяржаўны педінстытут замежных моў, «дзяржаўнасць» якога зусім не ёсць беларуская, а, у найлепшым выпадку, СССРаўская. І выпускае гэты інстытут настаўнікаў для школ РСФСР, УССР, іншых ССР, але толькі не для Беларусі, бо ўсё навучанне, наколькі мне вядома, вядзецца па-расейску. Сярод звычайных штампаў, што нібыта даказваюць карысць беларусам «великого и могучего», ёсць тэзіс пра тое, што, маўляў, «благодаря русскому языку белорусы получили доступ к сокровищам мировой культуры и выход на международную арену». Але ж замежную літаратуру можна чытаць не толькі па-расейску, але і па-нашаму, а «Hello» перакладаецца не толькі «Здравствуйте», але і «Добры дзень». Нездарма таму Мінскі інстытут замежных моў з'яўляецца толькі педагагічным інстытутам, а таму дае студэнтам веды, якіх хопіць толькі настаўніку. А вышэй настаўніка беларусу няма чаго, мабыць, лезці. Ці ж не здзек? Ва ўсіх рэспубліках ёсць факультэты замежных моў галоўных універсітэтаў, а ў нас няма! Мы можам імпартаваць выкладчыкаў ВНУ з Расіі, а пра спецыялістаў міжнародных дачыненняў і казаць няма чаго — яны і «суверэннай» БССР пакуль, як відаць, не вельмі патрэбныя. Але будуць патрэбныя, жыццё змусіць ажыццяўляць сваю міжнародную палітыку! Кадраў жа не густа.

Зыходзячы з усяго гэтага, трэба, на маю думку, неадкладна, ужо ў наступным 1991/92 навучальным годзе адкрыць на базе МДПІЗМ факультэт рамана-германскай і заходнеславянскай філалогіі БДУ. Хай гэта будзе адзін паток, хай гэта будзе адна група, але лепей штосьці, чым зусім нічога. І праграма павінна быць пашыраная да універсітэцкага аб'ёму. Акрамя таго, мэтазгодным выглядае дадатковае вывучэнне асноўных дысцыплінаў, неабходных беларускаму дыпламату. Адпаведным чынам зменіцца і кваліфікацыя выпускнікоў. Гэткі міні-факультэт філалогіі БДУ мае стацца цэнтрам нацыянальнае адукацыі спецыялістаў замежных моў і міжнародных дачыненняў. І, нарэшце, усё выкладанне павінна весціся выключна па-беларуску. Гэта будзе унікальны асяродак беларускамоўнай вышэйшай адукацыі. Хай бы гэты эксперымент стаўся яшчэ адным крокам да таго, каб нашая мова сталася патрэбнай і прэстыжнай.

Колькі яшчэ можна марудзіць і жаліцца на цяжкі лёс нашае адукацыі, нашае палітыкі?

**Андрэй ДУБІНА,**
**адзінаццацікласнік, прызёр леташняй рэспубліканскай алімпіяды па замежных мовах сярод школьнікаў.**

г. Брэст.

□

У верасні я была ў Брэсцкім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў гісторыі.

І вось што мяне ўразіла асабліва. Усе лекцыі, без выключэння, чыталіся толькі на рускай мове, нібы ў інстытуце не чулі пра ўступленне ў сілу закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Адна з лекцый проста абурыла. Яе тэма — «Нацыянальныя адносіны і іх развіццё на сучасным этапе». Лектар М. Вакульчык. Можна з выкладчыкам па многіх пытаннях згаджацца альбо не, але як зразумець наступнае выказванне, цытую: «Белоруссия — искусственно созданная республика, для буферности между Польшей и Россией. Собрали, немного от Виленщины отрезали, от России отрезали. Насобирали...»

Вось так, не больш, не менш. Выходзіць і мы, і мова наша таксама штучна створаныя? Навошта вучыць тое, што штучна створана? І чаго хочуць гэтыя беларусы, якое яшчэ ім адраджэнне трэба? І вялікая частка настаўнікаў робіць іменна такія вывады. А як жа? Вунь што ў інстытуце ўдасканалення чытаюць!

Самае адмоўнае ўражанне засталося ад наведвання інстытуцкай бібліятэкі, якая па ідэі таксама павінна быць памочнікам на ніве адраджэння. Пакуль што не стала. Дзве гадзіны загадчыца бібліятэкі знаёміла нас з кнігамі і часопісамі, раіла, што цікавага можна прачытаць па гісторыі СССР, знаёміла з творамі рускіх і іншаземных пісьменнікаў. Былі названы ўсе цэнтральныя часопісы, выданні РСФСР, творы рускіх эмігрантаў. А я ўсё чакала, калі дойдзе чарга да «Полымя», «Маладосці», серыі «Нашы славутыя землякі», што заснавана ў 1988 годзе. Не дачакалася. Ні адзін з беларускіх пісьменнікаў не быў названы. Успомнілі толькі Таісу Бондар, ды і то па той прычыне, што надрукаваны яе твор у беларускім часопісе «Нёман».

Вельмі шкада, але многія спадзяюцца, што «Закон аб мовах у Беларускай ССР» застанецца толькі на паперы. Гэтага нельга дапусціць. Кожны сумленны чалавек павінен вызначыць сваё месца ў адраджэнні нашай памяці. Інакш жыць нельга.

**А. ЛУШЧЫК,**
**настаўніца Запалянскай няпоўнай сярэдняй школы.**

Івацэвіцкі раён.

□

Як вядома, пасля павышэння цэн на газеты і часопісы беларускі друк апынуўся ў небяспецы. Яшчэ большую трывогу выклікалі звароты пісьменнікаў, грамадскасці, рэдактараў.

Калі да заканчэння падпіскі заставалася каля двух тыдняў, мы прапанавалі адміністрацыі і прафкому нашага інстытута «Палессдзіправодгас», што ў Пінску, аплаціць кожнаму супрацоўніку інстытута кошт падпіскі на адно любое беларускамоўнае выданне (за выключэннем «Звязды» — партыйнай газеты, якую можна падтрымаць за кошт партыйных грошай).

І вось вынік — за 10 дзён было выпісана газет і часопісаў (беларускамоўных) больш як на 5000 руб.

Верагодна, наш вопыт па падпісцы на 1991 год прыдасца каму-небудзь яшчэ. Мы пастараліся, каб у наступным годзе амаль кожная сям'я атрымала адно-два выданні на беларускай мове.

**І. РАМАНЧУК.**

г. Пінск.

**Васіль ВІТКА**

# Адкуль вы, як вас зваць?

## II

ДАЛЕЙШЫЯ МАЕ РАЗВАГІ вымагаюць тыя ж пытанні. Тым болей, што якраз жа, калі пісаліся ранейшыя, на старонках другога паважанага ў нас выдання паявіўся вельмі блізкі мне па тэме суразмоўнік. Маю на ўвазе маладога, але ўжо вядомага ў нас крытыка Сяргея Дубаўца з яго артыкулам пад назвою таксама ў запытальнай форме: «Где наши точки отсчета?» («ЛГ» № 37 г. г.).

Не падумайце, што адзін другога мелі мы на ўвазе. Проста блізка ішлі і немінуча сяды-тады цёрліся локцямі, але ні адзін, ні другі не пускаў іх у ход. І ў далейшай гаворцы, спадзяюся, не маем намеру штурхацца. А вось па праву жыццёвага стажу не з усім і не ўва ўсім буду згаджацца з маладзейшым маім калегам.

Аддаючы належнае яго шчырасці і добраму намеру знайсці і вызначыць «кропкі адліку», з першых жа радкоў прызнанняў аўтара ніяк не магу не толькі падтрымаць, а нават і ўцяміць такога яго нечаканага расчаравання: «Усякі раз, заводзячы гаворку пра беларускую літаратуру, стараючыся спасцігнуць сутнасць працэсаў, якія ў ёй адбываюцца, я міжволі трапляю ў паласу непрагляднага туману. Хаатычна і хісткая наўкола... Уяўныя арыенціры падманныя, апоры ненадзейныя, прычыны не вядуць да вынікаў, а вынікі мізэрныя і абсурдныя...

Вось як — з першага ж абзаца: аналіз, абагульненне і вывад. І аж мароз па скуры — што раптам сталася з беларускай літаратурай? Катастрофа? Духоўны Чарнобыль? Ці гэта аўтар, сеўшы пісаць, даваў сам сябе да такой узрыўной гатоўнасці?

Падобныя адчайныя пытанні доўжыліся б яшчэ і яшчэ, каб услед за аўтарам і чытач не пераключыўся на трохі лагаднейшы рэгістр: «паступова пачынаю разумець: справа не ў літаратуры, не толькі ў ёй».

Ну, дзякуй Богу. Сапраўды, і мы лягчэй уздыхнулі. Як кажуць, не так страшан той, каго малююць. Толькі ж марна паспяшаліся супакойвацца: высока ўзятую ноту крытык падымае яшчэ вышэй: «Бог з ёй, з літаратурай... Але ж разам з ёй гіне ж і той самы свет неўміручага. Куды мы без яго? Анікуды?.. Толькі класікай не абыдзешся — яна стварыла свой свет, а хто створыць наш? Магчыма, іншая літаратура, скажам, руская? Але ж тады і цана нам — у паўнарода (?), як утрыманцам, і лічыцца з намі будуць толькі па гэтаму «курсу». Нікуды не дзенешся, трэба прыводзіць у парадак сваё. Але як? Дзе нашы кропкі адліку?» — зноў вяртаецца аўтар да пытання, з якога пачаў. Замкнулася кола, якое міжволі не можа не нагадаць тое, вядзьмарскае і выратоўчае, якім абвёў сябе калісьці славуты гогалеўскі філосаф Хама Брут, вартуючы ў начной царкве нябожчыцу панначку. І наш аўтар у падобным коле. Прыстрашвае аўтар лішне сам сябе, ды яшчэ з не малой званіцы, звон якой чуцён далёка, і нам, прызнацца, і страшнавата, і крыўднавата за несправядлівасць. Бо гэта ўжо нават не тая славутая беларуская сціпласць, за якую заўсёды любілі і любяць нас нашы вялікія і малыя начальнікі, а самае зацятае самаедства — чым мацней сябе ўгрызу, тым болей пану дагаджу. І грызём сябе не першы век — прыродна і прылюдна.

Дык адкуль жа нарэшце, будзем пачынаць, з якіх кропак адліку? Майце цярпенне. Аўтар не спяшаецца. Абвёўшы сябе трывала і надзейна крэйдавым кругам, ён яшчэ доўга будзе тупацець у коле пабочных, другарадных і зусім далёкіх і ад тэмы, і ад адказу на пастаўленыя самому сабе пытанні.

Пачатак у мінулым нумары.

Ну, здаецца, нарэшце, наш няўрымслівы шукальнік вось-вось ужо ля жаданай кропкі. «З чаго пачаць?» — зноў тое ж праклятае пытанне, але намячаецца як бы і прасвятленне: «Адказ як быццам ясны: з адраджэння маральнасці, вызначэння фундаментальных каштоўнасцей быцця. Але як быць, калі для многіх такімі каштоўнасцямі з'яўляюцца цукар, мыла або гарэлка, кватэра, якой чакаюць, і месца ў дзіцячым садзе, поспех любімай футбольнай каманды, сеансы Кашпіроўскага...»

Дай Бог абысціся мне ў гаворцы без асабліва строгіх слоў. Заўважу толькі, што не заўсёды, на жаль, дакладна ў маладога крытыка спалучаюцца між сабой яго шчырая ўпэўненасць з разлікам на ўласнае першаадкрыццё:

**«Калі гаварыць аб духоўнай гібелі нашай нацыі, дык гаварыць варта аб гібелі дзіцяці, а не аб гібелі сфарміраванай асобы. Бо беларуская нацыя ў сучасным разуменні гэтага слова яшчэ ніколі не была дарослай».** (Падкр. **В. В.**).

Жахліва ўявіць сабе, што гэты найглыбакадумнейшы афарызм воляю гістарычнага лёсу будзе выбіты на помніку нашаму народу нават не ў вобразе дарослага чалавека, а бездапаможнага неданоска. А нам жа, не аднаму пакаленню людзей тлумілі галаву, што «Беларусь яшчэ не адспявала сваёй песні». Аднак, згодна ўдакладненню, якое вы толькі што прачыталі, Беларусь і не справабавала спяваць, яна, аказваецца, загінула яшчэ дзіцем.

Не мне тлумачыць адкрывальніку гістарычных сенсацый, што беларускае дзіця, нарадзіўшыся на божы свет болей тысячы год таму назад і ахрышчанае ў водах Дняпра, расло, набіралася моцы і сілы, а ў сумеснай дзяржаве з блізкімі сваімі суседзямі на землях Чорнай і Белай Русі вучылася само і вучыла іншых гаварыць, спяваць, чытаць і пісаць на сваёй мове, аб чым сведчаць сумесныя помнікі яе матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Адно няпоўнае пералічэнне імён: Гусоўскі, Скарына, Ефрасіння Полацкая, Сімяон Полацкі, Кірыла Тураўскі, Каліноўскі, Багушэвіч, Гарун, Багдановіч, Купала, Колас, Карскі, Гарэцкі, Ластоўскі, Ігнатоўскі, Насовіч, Сержпутоўскі, Чорны, Чарвякоў, Куляшоў, Мележ, Шырма хіба не маглі б упрыгожыць і праславіць у свеце і ў вяках любую нацыю?

Сёлета свет ушаноўваў аднаго з найвялікшых сыноў Беларусі — Францішка Скарыну. Але як гэта ў нас часта бывае, да ўрачыстасцей спрытна налаўчыліся прыстасоўвацца і тыя, хто не толькі пры жыцці ганьбіў юбіляра, а і праз сотні год пасля яго смерці. Гэтак здарылася і ў дні 500-годдзя вялікага асветніка. Адзначаючы памяць Скарыны, не абмінулі ўвагай і таго высокаідэйнага лідэра ў рэспубліцы, які паўвека назад чорным па беламу пісаў у газеце: «Каму гэта спатрэбілася ўшаноўваць у Беларусі нейкага цемрашала-манаха?» Па злой іроніі лёсу на адной з цэнтральных вуліц побач з будынкам, у якім сапраўды нямала жыло вядомых і слаўных людзей Беларусі, ціха і непрыкметна паявілася мемарыяльная дошка з барэльефам таго ж заўзятага барацьбіта супраць «нейкіх там манахаў», пры чым на доме, якога там ніколі не было ў час, калі гэты дзяржаўна-партыйны князь валадарыў над намі. Чым не лыжка дзёгцю ў святочны настрой?

«Прагрэсіўныя сілы», што заўсёды ішлі наперадзе новых ідэй, любых паваротаў, вызначаючы і самы ход гісторыі, і шляхі развіцця народнай культуры — о, гэта магутныя сілы. Апрычніцтва партыйна-апаратнай зарукі яшчэ ў поўнай уладзе асабліва на ўскраінах былой імперыі. Яго прагныя, хіжыя клюшні ўчапіліся ва ўсе поры грамадскага арганізма і *самае крыўднае, што нават* перадавая частка грамадства і асабліва інтэлігенцыя ўсё яшчэ не могуць, як прах са сваіх ног, атрэсці даўно скампраметаваныя і безнадзейныя ілюзіі. Гатовы ісці на паклон у чыноўніцкія кабінеты, прасіць чагосьці *нават не для сябе асабіста*, а для грамадскай карысці — ці ж гэта не прыніжэнне людской годнасці, годнасці інтэлігента, *нарэшце!*

Нядаўна прыйшлося быць сведкам такога горкага відовішча. У Саюзе пісьменнікаў абмяркоўвалася цяжкае становішча і невыносныя ўмовы, у якіх каторы год працуюць рэдакцыі нашых літаратурных выданняў. Усім вядомы жабрацкія аклады, якія атрымліваюць людзі высокай літаратурнай кваліфікацыі. Зарплата, напрыклад, галоўнага рэдактара беларускага літаратурнага часопіса роўна зарплаце машыністкі, якая працуе ў партыйным друку, дзе, як і ва ўсёй гэтай дзяржаўна-самадзяржаўнай сістэме, аклады павялічваліся ўжо не раз і не два. І самае прыкрае, самае крыўднае было тое, што сапраўды зняважаныя і прыніжаныя літаратары, расказваючы пра ўсё гэта, усе ў адзін голас звярталіся, прасілі, каб літаратурнае начальства падало на высачэйшыя імёны і ў вышэйшыя дэпартаменты вернападданніцкія прашэнні. Госпадзі міласэрны, паспачувай рабам тваім, бо самі іх рабаўласнікі ніколі іх не пачуюць. Колькі жыву на свеце, шчаслівы, што ніколі і нічога не прасіў, ведаючы, што гэта толькі ўзвялічвае адчуванне іх улады. Іх душы даўно ачарсцвелі, ператварыліся ў жалеза, бетон і камень, у тыя самыя трывалыя матэрыялы, з якіх, як вядома, паўстала праклятай памяці сцяна. Рушылася яна не сама па сабе, а толькі таму, што захацелі народы. Апаратна-чыноўніцкае змоўніцтва не траціць надзей, што яшчэ возьме свой верх. Абвяшчаючы перабудову, яно — гнуткае і спрытнае — умее прыбудоўвацца і прыстасоўвацца. Дзіва што, цэлая сістэма краіны рыхтавала іх, незаменныя вострадэфіцытныя кадры — цераз кароткія і доўгатэрміновыя курсы, семінары, школы гаспадарчага і партыйнага актыву, абласныя, рэспубліканскія і вышэйшыя ўсесаюзныя акадэміі. І заўважце, усё яшчэ не хапала. Дзе толькі паяўляўся здольны педагог, дырэктар школы, асабліва мужчына — у райкам, у абком, у любы выканком яго, дый мала хто мог устаяць перад спакусамі і прывілеяў, і ўлады. На поўную магутнасць шураваў механізм, а з канвеера адзін у адзін сыходзілі малайцы. І ўсе адной пробы. Вось і нядаўна разгарнуў газету. У калгасе ўборка бульбы. Дзве пажылыя жанчыны, сагнуўшыся крукам, корпаюцца ў разворанай баразне. А побач буйным планам — у капелюшах, пры гальштуках, у плашчах — ажно пяцёра кіруючых здаравіл вядуць між сабой вясёлую размову, рагочуць. Подпіс пад фатаграфіяй тлумачыць: вывучаюць перадавы метад. Хоць бы пасаромеліся лезці ў аб'ектыў! Скрозь і ўсюды яны ўсё ведаюць і гатовы ўсім кіраваць. Ніяк не магу забыць, як некалі наша мілая Вера Палтаран, выдатны публіцыст, рэдактар, згадзілася пайсці на сустрэчу ў Мінскую партшколу на журналісцкае аддзяленне. — Ну, і як, Вера Сямёнаўна? Цікава было? — Ой, не пытайце, дзесятаму закажу. Гэта ж паспадзявалася я — журналісты з раёнаў, абласцей, з самога Мінска. Давайце знаёміцца. Я да іх і так, і гэтак — як гарох аб сценку. Ніхто нічога не чытае і не ведае. Я ім пра Дуброўскага, Чарнічэнку, Карамазава, Якавенку, Пархуту, Караткевіча — ну ні бум-бум. Тады я нахілілася да аднаго. што на апошняй парце сядзеў, і паціху так спыталася: хто ж вы будзеце, як закончыце партшколу?—Руководители... — адказаў самазадаволена мой слухач...

Так яны, нічагуткі не ўмеючы, трымаюцца, як звязаныя адным канатам — і паспрабуй іх вывалачы адтуль, куды яны паспелі ўжо налезці зверху данізу. Кланяцца ім, прасіць — адбяруць у старца торбу, апошняе, што ў нас ёсць, нашу людскую годнасць.

*Успомніў, як утвараўся ў нас* Дзіцячы фонд. У Вярхоўным Савеце сабралі прадстаўнікоў ад усіх устаноў і арганізацый. Сядзімо. Чакаем. Кіраўнічая начальніца канцылярыі, акінуўшы вокам прысутных і зверыўшы са спісам, сказала: — Усе ў зборы. Вось толькі таварыша ад царквы не бачу. — Ні на адным твары не мільганула нават лёгкая ўхмылка. Адміністрацыйна-кіраўнічы лексікон узбагаціўся. Ці даўно абедзве ідэалогіі былі зацятыя ворагі. І так хутка паразумеліся, што і дзяліць амаль няма патрэбы сфераў уплыву. Пампезнасць, шыкознасць, эфектна разлічаныя на прывабнасць відовішча — ці не тыя ж знаёмыя прыёмы нашых жа нядаўніх рытуальных цырымоніймайстраў па найбольшым «ахопе працоўных мас».

Дзіва, як гэта ў свой час прыдворная чэлядзь не ўвяла ў вушы ўладалюбнаму Брэжневу прыхапіць заадно яшчэ і патрыярхава жазло, што сану «генеральнага» адпавядала б «ваша свяцейшаства», а астатнім там Сусловым, Раманавым, Грышыным, Падгорным, Мазуравым, Шчарбіцкім — «вашы праасвяшчэнствы». На абмеркаванні ў саюзным Вярхоўным Савеце закона аб Свабодзе сумлення і веравызнання знайшлося нямала прыхільнікаў, у тым ліку педагогаў, гатовых далучаць да царквы дзяцей з пачатковай школы. Дазвольце, царква ў нас, здаецца, не на ўтрыманні дзяржавы, як, скажам, і ў тых жа ЗША, дзе рэлігійнае выкладанне не ўваходзіць ні ў якія навучальныя праграмы. Рэлігія —справа асабістая і, я сказаў бы, інтымная. У тым існасць сапраўднай веры. Са шчырай пашанай гатоў аддаць перавагу якраз прыхільніку гэтай веры, чымся таму, хто дэманстратыўна, напаказ б'е сябе ў грудзі і клянецца, які ён верны, аддана і перакананы, а не паспее тройчы, як сказана ў пісанні, пракрычаць певень, як ён на тым часе здрадзіць веры, і адрачэцца ад сваіх перакананняў.

У НАШ ТРАГІЧНЫ ЧАС, калі ламаюцца не толькі лёсы людскія, але і душы, і ўсе ранейшыя перакананні, страшней за ўсё — за моладзь, за дзяцей. Вядома, дваццацімільённаму адміністрацыйна - апаратнаму Вавілону прасцей простага было б раскідаць іх, бяздомных і абяздоленых, па розных гадавальніках, прыёмніках, лагерах, інтэрнатах і прытулках — пад любы нагляд: бальніцы, школы, міліцыі, царквы. Сучасны Понцій Пілат, вінаваты ва ўсіх злачынствах, рады ўмыць рукі. Але перад дзецьмі, перад сваёй, яшчэ невядома якой будучыняй усе мы Понції Пілаты. І толькі з прызнання, з пакаяння, з праўды, якую мы мусім сказаць нашым дзецям, унукам і праўнукам, якраз і пачнецца тая галоўная кропка адліку, якую гатоў прызнаць і я разам з маім маладым і мудрым субяседнікам.

Пойдзем, мой друг, у школу, пачнём з першага класа. «Маша ела кашу». Даруй, Машачка, мы ўсё жыццё кармілі цябе не той кашай — агорклай, абрыдлай. Акцябраты, мы выхоўвалі з вас папугаяў. Камсамольцы, выхавацелі юнай змены, вы былі ў нас — папіхачы, куды пашлюць, што загадаюць. Настаўнікі, хто не любіць дзяцей, не роніць за імі душу, ідзіце загадваць піўнымі ларкамі. Бацькі і маці, што выракліся родных дзяцей, падкінуўшы іх у чужыя гнёзды, няхай на векі вечныя на нашых ілбах гарыць каінава пячаць пракляцця!

Што яшчэ мы скажам нашым дзецям? «Даруйце нам, мы ашуквалі вас. Самі ўжо ведаеце, даўно няма Сталіна, крывавага ката, які загубіў мільёны людзей толькі за тое, што не хацелі пакідаць сваёй зямлі, сваіх гаспадарак, за адно тое, што нехта не так на яго зірнуў або не так сказаў. Уся краіна была застаўлена турмамі і лагерамі, а зняволеныя людзі былі дармовай сілай, рабамі, якія будавалі заводы, пракладалі чыгункі, капалі каналы.

Калісьці вашы дзяды і прадзеды, пачынаючы вучыцца, чыталі па складах самыя першыя словы ў букварах: «Мы не рабы».

Няхай жа ваш буквар. пачынаючыся з гэтых слоў, гаворыць толькі праўду.

Наша педагогіка, наша літаратура не могуць болей хлусіць».

*Перапрашаю, што* трохі ўхіліўся, збочыў у педагогіку, рады, што нашы думкі супалі, што тут мы паразумеліся з Дубаўцом, з якім, аднак, у многіх іншых выпадках не так лёгка знайсці агульную мову. Ход яго цікавых разваг і сама сістэма аргументацыі падчас разыходзяцца між сабой: «Адбываецца многае, у тым ліку і ў нацыянальным жыцці, — піша аўтар. І далей: — Беларуская мова атрымала дзяржаўны статус, працуе рэгіянальнае аддзяленне Фонду культуры, дзейнічаюць творчыя саюзы, культурныя міністэрствы, створана таварыства беларускай мовы... Ці ж не гэта — скажуць мне — не шляхі рэалізацыі нацыянальнай ідэі? Але чаму адчувальных вынікаў усёй гэтай дзейнасці як не было, так і няма? **Ужо год дзесяць я думаю аб бясплоднасці ўсіх нашых намаганняў.** І штосьці вельмі замінае мне з энтузіязмам уступаць у новыя таварыствы, давярацца пранікнёным патрыятычным прамовам нашых пісьменнікаў, ды і проста чытаць іх усё болей праўдзівыя патрыятычныя творы? **Што замінае мне назваць Ніла Гілевіча, Янку Брыля, Максіма Танка, Уладзіміра Калесніка... духоўнымі лідэрамі нацыі?**

(Працяг на стар. 6).



Прэм'ера новай кнігі Леаніда Драньо-Майсюка «Тут» сабрала ў Доме літаратара многіх прыхільнікаў яго таленту. Пра адметнасць таленту паэта і эсэіста на вечарыне гаварылі вядучы сустрэчы Р. Барадулін, А. Пісьмянкоў, В. Тарас, Л. Галубовіч, Г. Булыка, А. Асташонак, Г. Марчук. Артысты Купалавага тэатра З. Белахвосцік і І. Дзянісаў паказалі ўрывак са спектакля «Дракон». Песня са спектакля на словы Л. Драньо-Майсюка прагучала ў выкананні А. Гарцуева. Метадыст Дома літаратара І. Ястраб пазнаёміла прысутных з урыўкам з эсэ «Адзін радок Гётэ».

Ул. КРУК.

# АДКУЛЬ ВЫ, ЯК ВАС ЗВАЦЬ?

(Пачатак на стар. 5).

Дазвольце, дазвольце. А мне нічога не замінае дадаць у гэты спіс і Сяргея Дубаўца. Спадзяюся, не пакрыўдзіцца. Кампанія паважаная. Дый кожны, сапраўды, лідэр і па творчым набытку і па грамадскай вазе, якая адчуваецца не толькі ў літаратурным асяроддзі. А што ж сам Дубавец, за выключэннем тых дзесяці год, на працягу якіх ён раптам упаў у такую роспач, што ўжо нават не чытае новых твораў сваіх старэйшых таварышаў? Як нам вядома, яшчэ зусім нядаўна, а не дзесяць год назад, і ён жа быў не з апошніх завадатараў славутай і шумнай літаратурнай суполкі «Тутэйшыя». Гучныя маніфесты, найстражэйшыя патрабаванні да кіраўніцтва СП, сенсацыйныя літвечары, смелыя праекты моўнай рэформы. Ды ці мала яшчэ чаго. Нездарма ж сама «Литгазета» ўжо на трэці год іх кіпучай дзейнасці, згодна паведамленню свайго карэспандэнта, адзначала ледзь не юбілей суполкі, аўтарытэтна сцвярджаючы, што за тры гады свайго існавання «Тутэйшыя» прайшлі шлях не менш значны, чым увесь Саюз пісьменнікаў Беларусі за паўстагоддзе. Грэх было б ганіць «Тутэйшых». Хоць і нядоўга паплёскаўся ў літаратурны бераг іх бурны прыбой, а вынес не малыя кавалкі сонечнага бурштыну, што ў руках здольных гранільшчыкаў зайгралі многімі прывабнымі колерамі. Дарма ж наш крытык гэтак мучыцца ажно дзесяць год, думаючы аб бясплоднасці ўсіх нашых намаганняў.

Прызнацца, я і сам траха не паддаўся залішняй асцярозе: крый Бог пахіснуць яго ўпэўненасць. Вельмі ж катэгарычнае кожнае сцвярджэнне. Кожнае слова — аксіёма. Няхай не з Сарбоны, не з Кембрыджа, а з не менш славутага нашага БДУ, адзін з яго лепшых гадаванцаў, паблажлівы да правінцыяльных неафітаў і ценю сумлення не дапускае. Разважае, напрыклад, аб тым, што сфарміравацца беларускай нацыі «заўсёды штосьці перашкаджала. То царызм, то рэпрэсіі, то вайна, то бюракратыя...» Адкрыцці хоць і не вялікія, але згодзімся, што так. Тым больш, што і аўтар зазначае: «Усё так. Але ад гэтага не лягчэй. І ад разважанняў аб перабудове як «апошнім шанцы» для беларусаў — таксама. Нейкія касметычныя штрыхі, якія робяцца для таго, каб на абліччы ў насельніцтва нарэшце з'явіўся выгляд нацыі...» Заўважце, гэта ўжо штосьці з вельмі арыгінальных сакрэтаў, запазычаных у касметолагаў ці ў салонах хараства! Але і гэта справа «таксама безнадзейная» — прызнае крытык. «Увесь час штосьці тут не дамалёўваецца, быццам сам «матэрыял» супраціўляецца руцэ «мастака». У нас жа не якія-небудзь «інтэры», не прыезджыя «твары каўказскай нацыянальнасці» і нават не партапарат найболей актыўна выступаюць супроць беларускіх школ або, скажам, футбольных тэлекаментарыяў па-беларуску, а самі беларусы. Маўляў, гэта ўсё адным «пісьменнікам» патрэбна». Заўважу, што слова «пісьменнікам» падаецца ў двукоссі і ў беларускай транскрыпцыі, відаць, не толькі для каларыту, а і мясцовага акцэнту. Нездарма ж аўтар быў «тутэйшым». Вось толькі цяпер, зараз — чый, адкуль і як завецца, калі з такой, прабачце, не вельмі ўжо і прыхаванай зласлівасцю сыпле соль на душы сваіх нядаўніх супольнікаў.

Не станем удавацца ў даўніну, дзе ўсё замінала нашаму нацыянальнаму самавызначэнню, як сцвярджае аўтар, спынімся на не такой ужо страшнай яму бюракратыі, а тым болей, партапарату, што проста, як чысты анёл, ні ў чым нявінны, каб не гэтыя злашчасныя «пісьменнікі». Наперадзе болей важныя адкрыцці:

«Смерць духоўная — смерць фізічная, — не ўласціва, па-мойму, ні тым, хто адкрывае беларускія школы, ні тым, хто пратэстуе супроць іх», — працягвае аўтар. «Мы ўсе далучаемся да рускай культуры». А вось, бадай, далейшы тэзіс, з якім нельга не пагадзіцца.

Як у ваду зазірнуў прадбачлівы прагназіст: «Аднак, на жаль, за два стагоддзі актыўнага бытавання ў Беларусі рускай культуры (школа, друк, пазней — тэлебачанне) не далі ніводнага колькі-небудзь прыкметнага імя, роўнага відным дзеячам самой Расіі».

Я ўдзячны якраз за гэты паварот думкі майго субяседніка. Ён навёў мяне на даўнія разважанні, якія я некалі нават запісаў сабе ў дзённік, разважаючы аб рэдкім і незвычайным феномене ў беларускай літаратуры, якім з'явіўся для нас Васіль Быкаў. Даўно было. Спадзяюся, не пакрыўдзіцца Васіль Уладзіміравіч. Ён тады толькі пачынаў, але ўвачавідкі набываў вядомасць. Прызнаюся, што асабіста я ўспрымаў яго свядомасцю, але як жа эмацыянальна, пачуццямі было нялёгка прылучыцца да яго мастакоўскай існасці. Найцяжэйшы бар'ер, і амаль заўсёды непераадольны, была мова. Дакладней сказаўшы, адсутнасць мовы. Лексічная непераборлівасць, сінтаксічная нязграбнасць, нячуйнасць фанетычнага ладу слова, яго аўтаномнага і суладнага гучання ў спалучэнні, у кантэксце сказа. Маю на ўвазе не стылізацыю, а стыль, як аблічча, як характар мастака. Пераклады на рускую мову, якія звычайна рабіў сам аўтар, у нейкай ступені, вядома ж, стылізавалі яго пісьмо, ніве́ліравалі невыразнасць і безаблічнасць арыгінала, аднак, прыкмет і ўзроўню індывідуалізацыі, асабістасці не надавалі.

Грэшнай справай, я нават быў дадумаўся да такога недарэчнага вываду: а што калі стыль Быкава якраз у адсутнасці таго стылю, вызначэнне якога ў сучаснай літаратуры ўжо страціла свой сэнс, а мова ў распаўсюджаным ужытку цераз масавыя камунікацыйныя сродкі, зведзеная да агульных і зручных сінтаксічных блокаў і кантэкстаў, выпрацоўвае, ці нават выпрацавала ўжо зусім іншыя магчымасці выказвання? І ўсё ж і тады няцяжка было ўсумніцца, што і на такой камунікацыйнай мове пісьменнік змог раскрыцца як асоба. Дык у чым жа была загадка яго поспеху і поспеху несумненнага? Сам час даў адгадку. Быкаў быў адзін з першых, хто ў літаратуры пачаў гаварыць праўду аб вайне. Дэфіцыт праўды аб чалавеку ў невыказна і невыносна складаных абставінах і ўмовах, перажытых мільёнамі людзей, болей не магла ўтрымаць усенародная памяць. Яна нават магла дараваць недасканаласць слова і сродкаў апавядання кожнаму мужнаму і праўдзіваму ўдзельніку і сведку гэтай нечуванай трагедыі. Нездарма на тым часе спазнання вайны такой, якой яна была, у аднолькавай меры, а магчыма, яшчэ ў большай, праяўлялася ўсеагульная прагная, ненатольная цікаўнасць да дакумента, да жывых сведчанняў. Прыход Быкава ў літаратуру супаў і замацаваўся добрай рэпутацыяй у чытача менавіта на шырокай хвалі ўсеагульнай грамадскай зацікаўленасці да асэнсавання перажытага — чаму мы выстаялі і як перамаглі? Быкаў быў першапраходцам тэмы вайны, што вымагала не меншай мужнасці непасрэднага ўдзелу ў самой вайне. Думаю, што пераход пісьменніка да гістарычнай драмы часоў калектывізацыі, сталінска-берыеўскага генацыду на Беларусі — гэта ўжо якасна новы і, магчыма, вышэйшы экзамен і выпрабаванне для мастака. Уросшы ў родную глебу, у асяроддзе, побыт, блізкі і знаёмы змалку, ажыў, загаварыў увесь духоўны свет пісьменніка. Нездарма калісьці Імануіл Кант катэгарычным імператывам прызнаў два галоўныя вымярэнні: бясконцае зорнае неба над намі і маральны закон унутры нас. Няма Бога, акрамя Бога—таксама сказана задоўга да нас і зусім не ваяўнічым бязбожнікам. Бог не мае патрэбы ў пасрэдніках, гэта ў нас ужо называецца наменклатурай. Яшчэ зусім на нядаўняй памяці Быкава і Айтматава ў адной з цэнтральных газет узяліся крытыкаваць сучасныя ваяўнічыя атэісты, эпоха якіх даўно сышла ў нябыт, а яны ўсё яшчэ чалавечыя каштоўнасці спрабуюць важыць на бязменах, на якіх калісьці важылі соль і селядцы ў мястэчковых крамах.

Васіль Быкаў — нацыянальны пісьменнік. Ва ўсіх яго мастацкіх творах, ва ўсіх выступленнях з самых высокіх грамадскіх трыбун магутна гучыць яго слова, багацці якога, маляўнічасць і мілагучнасць чуваць усё далей і шырэй у свеце. Вядомы на многіх мовах, у поўнай мастацкай сіле ён, аднак, перш за ўсё ўспрымаецца на сваёй, у арыгінале. Як сапраўдны мастак, ён бачыць, адчувае пластыку слова не толькі ў яго фактурным аб'ёме, але і на слых, і на колер, і яшчэ я дадаў бы — і на смак. Беларусы ганарацца і шчыра ўдзячны свайму выдатнаму сыну за тое, што піша ён на мове роднага народа, хоць маладому нашаму крытыку, дый самой газеце чамусьці няўзнак, што лідэры нацыі — не наменклатура і не пасады.

# Пакуты дваістага Януса

Штомесячныя выданні бібліятэкі часопіса «Маладосць» паскорылі нашае знаёмства з аўтарамі, для якіх асобная кніжка многія гады да гэтага была недасягальнаю марай. Мой асабісты чытацкі голад на навінку значна часцей наталяюць паэтычныя зборнікі гэтай бібліятэкі. Проза йшла, за рэдкім выключэннем асобных апавяданняў у калектыўных кніжках, усё больш звыклая, унармавана-традыцыйная.

І вось шосты нумар за сёлетні год—«Міражы ценяў» Анатоля Казлова. Дваццацівасьмігадовы аспірант Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР выдаў у бібліятэцы «Маладосці» паўнаважкую кнігу прозы—пяць з лішнім аркушаў. Шаснаццаць апавяданняў — грунтоўная заяўка на чытацкую ўвагу да свайго дэбюту.

Скажам адразу, што з назваю аўтар яўна намудрыў. Міраж ценю — здань ад здані. Так, у кніжцы без зданяў ніводная старонка не абыходзіцца. Ці не цэлая краіна зданяў. Здані людзей, ідэалаў, спраў. Але жывуць яны нашым жыццём, паўтараюць нашыя словы, робяць нашыя справы, ходзяць нашымі сцежкамі і—прагнуць іншага самавыяўлення. Відаць, аўтар і хацеў акцэнтацыі нашае ўвагі, даючы такую назву, менавіта на гэтай думцы. Сёння мы ўсе—палоннікі абставін, сацыяльных і гістарычных. Мы ўсе жывём не сваім жыццём. У лепшым выпадку недзе ў глыбіні душы нясём сябе сапраўдных, але, як ні круці, раз-пораз выяўляемся іншымі. Хто больш, хто менш. Чыстага «я» на старонках кнігі няма. Як і ў жыцці, напэўна, таксама.

Чаму? Вось гэтае пытанне—стрыжнёвае ва ўсіх апавяданнях. Рознымі шляхамі шукае малады аўтар адказ на яго. Адказаў не знаходзіць, знаходзіць агульную перадумову для іх—разглядаючы толькі сённяшні дзень, дзень жыцця свайго героя, ісціну спасцігнуць нельга.

Тысячагадовыя пласты нашай культуры з яе бясконцымі таямніцамі, згадкамі, з яе паэтычнымі паданнямі і празаічнымі рэаліямі, яе віхлястыя шляхі-сцяжынкі, шырокія тракты і перарывістыя нітачкі-пуцявінкі адзінокіх душаў, якія похапкам злучаючы, так заблытаў лёс (у аўтара—старац Лёсік), што і праз вякі не зразумець: як, за што, дзе, з кім, без каго? Пошук адказаў ізноў нараджае загадкі і таямніцы. Яго героі дзейнічаюць насуперак цвярозым развагам, шукаюць душэўнага паратунку, а трапляюць у новую нявыкрутку. Несупакоеныя душы самазабойцаў праз сем пакаленняў трывожаць нашчадкаў, і яны, таго не ведаючы, расплачваюцца за грахі далёкіх продкаў. І множаць, і множаць свае—у спадчыну наступнікам.

Анатоль Казлоў. Міражы ценяў. Апавяданні. Бібліятэка часопіса «Маладосць». 1990. № 6 (24).

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# НА ГЭТАЙ ПРАКЛЯТАЙ АФГАНСКАЙ...

Даўно хацелася напісаць пра раман Мікалая Чаргінца «Сыны», тым больш, што за творчасцю яго аўтара сачу даўно. Аднак сесці за рэцэнзію нейк не выпадала: замінала то адно, то другое. А надоечы ў «Комсомольской правде» трапілася на вочы публікацыя, пасля якой зразумеў: не напісаць цяпер пра раман М. Чаргінца проста нельга.

Якая сувязь паміж мастацкім творам і газетным паведамленнем? Ды самая непасрэдная. Мяркуйце самі. Як піша «Комсомолка», у сям'і інваліда Адылбека Атаджанава нарадзілася дачка. Сам па сабе факт, можна сказаць, звычайны, калі б не адно «але». Малады бацька — чалавек незвычайнага, трагічнага лёсу. Маленькая Каміла, калі падрасце, даведаецца, што яе бацька быў «сапёрам на страшнай і незразумелай вайне», страціў там руку і абедзве нагі, вярнуўся ў родную Хіву ўвесь прашыты асколкамі. Знайшлася дзяўчына, якая пакахала яго і робіць усё, каб хоць неяк суняць боль — боль ранейшы і боль сённяшні, які нараджаецца ад таго, што Адылбека і тысячы яму падобных называюць «страчаным пакаленнем», абвінавачваюць ва ўсіх грахах, найперш у жорсткасці.

Так, Афганістан — палітычная авантура генералітэту, злачынства тагачаснага партыйнага кіраўніцтва. Але пры чым тут Адылбек Атаджанаў і яго сябры-пакутнікі? Пры чым тысячы бязвусых юнакоў, сярод якіх вельмі і вельмі шмат беларусаў, што зпажылі свае галовы пад Гератам, Баграмам, у загор'ях Саланга? Раман М. Чаргінца «Сыны» — якраз пра іх, пра гэтых хлопцаў, якія хацелі працаваць і вучыцца, кахаць і танцаваць на дыскатэках, аднак ім выпала іншая доля...

Сказаць, што ўсе яны рваліся ў бой, а правільней, у Афганістан — пакрывіць душой. Адмовіць ім у такім жаданні — таксама сфальшывіць. М. Чаргінец, які сам быў у Афганістане, узнагароджаны там ордэнамі Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі, зведаў цяжкае раненне і кантузію, не падыходзіць аднабакова да высвятлен-

**Раіса БАРАВІКОВА**



## Лістападаўскі пейзаж

**Начным дажджом асфальт наўкол амыты.**
**Скразняк свідруе дворык прахадны.**
**Свядомыя пайшлі ізноў на мітынг,**
**а ў несвядомых сёння — выхадны.**
**Ларок за домам... Прадаецца піва.**
**Бяздомны кот на сметніку, як здань.**
**Кудысь плыве мелодыяй тужлівай**
**нябёсаў ускалмачаная твань.**
**У вадасцёк ручай сцякае брудны,**
**за плотам грыб драўляны, нібы гном.**
**як маўзалей дыктатара, бязлюдны,**
**палохае пустэчай «Гастраном».**
**Усё сцяла няясная трывога,**
**і вецер спеў зацягвае глухі...**
**Пайду ў царкву. Хачу спытаць у Бога,**
**як хутка адпускае ён грахі!**

## У час аднаго шпацыру

**Птушка забілася ў сонных хмызах,**
**навошта яе трывожым!**
**Няўжо ты не бачыш, голле ў слязах,**
**яно сумуе таксама, можа...**

**Па ветры цёплым, па промнях зары,**
**па нечым вельмі звычайным...**
**А тут жа толькі адны камары**
**ўюцца ў танцы адчайным.**

**Там, дзе берага выгнуўся кант,**
**словы гучалі другія,**
**і сэрца дасюль мае, як эмігрант,**
**поўнае настальгіі...**

**І не з табою я зараз, з ім...**
**Ён — твор для мяне, ты — прадмова,**
**таму і вечар наш гэты, як дым,**
**як без літар галосных мова.**

**І не скажу я табе: «Даруй...—**
**за падман вачэй выпадковы,**
**бо які толькі сказ у душы не збяру, —**
**рассыпаюцца словы.**

**І мулка пад позіркам мне тваім,**
**як ты не глядзеў бы прыгожа...**
**Дык павер у гэтага вечара дым,**
**развеяць які не зможаш.**

●

**Жыву, і дзякуй, не ў прасторы голай.**
**Мая душа — скарбонка пачуцця...**
**Дык што ж ты плачаш, юны мой астролаг,**
**што тэрміны кароткія ў быцця!**
**Хай цела — тлен...**
**Ад тлену не прыбудзе...**
**Ды вырвецца калісь на волю дух!**
**І што з душы аддаць паспею людзям,**
**яно і ёсць быцця адвечны рух.**

## Сябрам паэта

«...мы ігралі вам на жалейцы, і вы не скакалі; мы спявалі вам самотныя песні, і вы не рыдалі».
(Евангелле ад Матфея, гл. 11).

**Сляза не блісне радасцю з-пад вейкі,**
**не свеціць нават таннай славы лаўр...**
**З нас кожны — ад Купалавай жалейкі,**
**і кожны, — як апошні дыназаўр.**

**І весялосць, і боль радкоў — не лекі**
**каму патрэбен слоў высокі сэнс!**
**Як дзіўна ведаць, на зыходзе веку**
**чаруе не Паэт, а экстрасенс.**

*Герман Кірылаў*

# ПА ВЯРБОЎЦЫ

*апавяданне*

Матка з Петраком выйшлі праводзіць на ганак. З акна падала бледнае святло ад запаленай газоўкі.

— Ну, аставайцеся шчаслівыя, — сказаў Лявон. Саромеючыся пяшчоты, што цёпла, козытна зашчыпала вочы, тоўхнуў у пляцо брата, які стаяў, зябка хутаючыся ад непрыемнага пасля хаты марозіка ў накінуты наапашкі матчын кажух. Пятрок зірнуў з сумам, спадылба, нават як бы з крыўдай. — Вучыся, глядзі. — Лявон патуліў хлопца да сябе. Той моцна, з дзіцячай даверлівасцю прыціснуўся ў адказ. І быў яшчэ зусім дзіця: у сёмы клас хадзіў. — Каб маткі слухаўся,— загадаў яму, напускаючы строгасці. Чмокнуў Петрака ў галаву і павярнуўся да маткі, ужо дарэшты разгублены ад сваёй непрывычнай расчуленасці. У водсвеце ад акна ў матчыных вачах блішчэлі слёзы. Губы дрыжэлі. Зараз загалосіць, кінецца на шыю. Не, трымалася. Толькі прагна, з немым болем узіралася замглёным позіркам у ягоны твар, быццам астатні раз, быццам хацела ўзяць у памяць кожную рыску. Лявона скаланула ад раптоўнага ўспаміну: гэтак жа яна глядзела на бацьку, развітваючыся з ім улетку 44-га года, калі мужчын забіралі на фронт, і ён стаяў разам з усімі ў страі, а сярдзіты, крыклівы афіцэр адагнаў прэч жанчын, каб зрабіць пераклічку ды весці калону ў дарогу. Зімой 45-га і ў іхнюю хату прыйшло «звяшчэнне». — Мама! Я скора вярнуся,— натужна ўсміхнуўся ён. — Адразу напішу, як прыеду. Буду пісаць часта. — Як яны чакалі бацькавых лістоў-трохвугольнічкаў, як кожны раз абміралі, калі да іх зварочваў паштальён: барані Бог, з казённай паперай.

— З Богам, сынок! — перахрысціла яго матка, і ён, заўзяты камсамолец, бязбожнік, не запраціўся: так ужо прынята ў старых,— узяла за галаву, мякка нахіліла, пацалавала ў шчокі і ў губы, а тады парыўна абшчапіла, уткнулася ў грудзі і ўсё-такі загаласіла, глуха, сіпла. — Бож-жа! — усхліпнула. — І ты ўжо ў свет!

— Мама! Ну што ты, праўда? — Лявон зірнуў на брата, быццам чакаючы помачы ад яго, меншака. Але ў таго самога наварочваліся слёзы. — Пайду ўжо я,— як літасці папрасіў.

Матка неяк ураз сціхла, адхінулася, верхам рукі правяла па вачах.

— Ага, ідзі,— адказала згодна. — Каб людзі не чакалі. — Звыкла, як заўсёды пры нейкай пільнай справе, зарупілася, варухліва нагнулася, падала сундучок з маленькім замочкам, які адмыкаўся цвіком і быў павешаны проста для фасону. — Пішы ж. Не забывайся тамака на нас. Не выракайся, сын.

— Мама! Чаго б стаў выракацца? — пакрыўдзіўся Лявон. Узяла роспач, калі на імгненне ўявіў, што сапраўды нешта з ім сталася, хвароба якая-небудзь зачмурыла, адбіла памяць, і вот не ўзнае ні маткі, ні брата з сястрой, ні роднай хаты, ні роднага кутка. Як бы тады жыў, горкая, найгарчэйшая ў свеце сіраціна?

— Дзеткі мае, — матка звярталася не да аднаго Лявона, а і да Петрака, і яшчэ да некага, каго тут не было. — Людзі, як пападаюць у лепшае, скора адвыкаюць ад горшага.

— Гаворыш абы-што, — папракнуў яе Лявон. — Як быццам я назусім еду?.. Бывайце здаровы!

Папраравіў за плячамі пляцак — торбу з прывязанымі за бульбіны, укладзеныя ў ражкі, матузкамі-лямкамі, ступіў з ганка, як быццам сілай ірвучы нябачную, моцную прывязь, што трымала на месцы, пусціўся па панадворку. Гразь толькі зверху прыхапіў малады, нядужы марозік, скарынка прасела пад нагамі. Звярнуў набок, да плоту, на траву, каб не ўпэцкаць святочныя, хромавыя боты. Шкода было абуваць іх у дарогу, але ж і не паказвацца на людзі абы ў чым — у старых, латаных-пералатаных чараўках, годных хадзіць толькі дома ды ў калгас на працу. Горш, што і на руднік давядзецца цягацца ў ботах, пакуль з першых жа грошай не купіць якія хадакі на штодзень. Ну ды не было б большай бяды.

Штосьці быццам тузанула, паклікала азірнуцца назад. Матка з Петраком яшчэ асталіся на ганку, глядзелі яму ўслед. Махнуў рукой, яны замахалі таксама. Але трэба было спяшацца, каб не адстаць, не валачыцца аднаму. Рушыў спорна, ходка па дарожцы, што плаўна падымалася ўверх.

За плотам у дзве жардзіны ў мглістых поцемках вычэрчваліся кашчаварукія цені голых, маладых яблынь. Забалела па іх, як па блізкіх жывых істотах: хаця б матка не пераступіла ў адчаі ягоную забарону і не пусціла пад тапор дрэвы, каб не плаціць за іх лішнія, і так непасільныя падаткі. Сад сама ўбіраўся ў сілу, даваў слаўныя, смачныя яблыкі. Бацька прывёз прышчэпы ад самога Сікоры, славутага ў тутэйшым баку садавода, садзіў сваімі рукамі. Як было губіць такое хараство ды і памяць жывую пра бацьку?

Выбраўшыся на дарогу, Лявон зноў запыніўся. На ганку ўжо было пуста. І адсюль, зводдаль, здавалася, выразна бачыў дзве прыступкі, дзірачку наўскос ад выпалага сучка ў ніжняй, закрутку ў шуле з выцертым вакол дзіркі белым кружком, ужо прыкметна счасаны нагамі парог у сенцы.

Павёў вачамі далей, за свой хутар. У прывідным паўзмроку, у якім ледзь-ледзь угадвалася яшчэ няблізкае світанне, тануў нізкі луг. Па ім вілася грыва кустоўя, што значыла звілістыя берагі нетаропкай, светлай рэчкі Паловіцы з рыбнымі завоінамі і вірамі. Далей усё злівалася, нічога не адрозніць. Але памяццю сваёй ён бачыў сінюю сцяну пушчы, у якую яго цягнула змалку, куды яшчэ зусім нядаўна яны з Петраком хадзілі ў познія грыбы і прынеслі поўныя кашы. Як пакідаць гэта? Калі ўсё стаіць у вачах, калі будзе, канечне, трызніцца, сніцца.

Перайшоў на дыбачках трохі святлейшую сярод збуцвелай травы палосу гразкай, цяпер замерзлай дарогі, пусціўся па ўзбочча, углядаючыся пад ногі, каб не ўбіцца ў лужыну.

Недзе яго чакаў Стась Бруйка, Кірэеў зяць. Дамовіліся з ім разам адпраўляцца ў мястэчка, каб ужо там сесці ў адзін вагон, трымацца неразлучна ўсю дарогу да Эстоніі, а пасля і на сланцавым рудніку.

Стась ужо год як быў завербаваны на камбінат «Ээсці фасфарыт». Цяпер прыехаў забраць жонку з дачкой, выязджалі ўсёй сям'ёй. Ён і Лявона падбіў з сабой. Перш чым вербавацца, Лявон параспытваў па людзях, куды лепей. Ехалі ў розныя канцы. І ў Карэла-Фінскую рэспубліку, і ў Молатаўскую, Кіраўскую, Архангельскую вобласці, і ў Данбас, і ў Сібір, і на Урал. Стась параіў Эстонію. Як-ніяк — Еўропа. З ядой, з адзяваннем-абуваннем трохі лягчэй. Жыць блізка горада. Гэта не ў тайзе камароў карміць. Хоць у тых сланцавых рудніках не мёд, самі эстонцы ў іх не дужа хочуць лезці. Нічога, беларусу не прывыкаць. Абы зарабіць можна, канцы з канцамі стачваць. А то ўжо прыйшло к таму, што невядома як і жыць.

Апошнія год-два са сваёй аднаасобнай гаспадаркі мала што мелі: амаль усё ішло на падаткі. Усе разумелі: ціснуць, каб ішлі ў калгасы. Летась зрабілі нарэшце калгас і ў іх. Двое сутак не выпускалі нікога са сходу, пакуль не сталі падаваць заявы. Цяпер, думалася, як зрабіліся нармальнымі савецкімі людзьмі, зажывуць. Аж у першы год атрымалі на працадзень па некалькі грамаў гірсы, а сёлета ўжо ясна, што і гэтага не будзе. Азімае так-сяк убралі, а з яравымі, з бульбай і льном уцягнулі ў дажджы: што гніе ў копах, што стаіць наогул нечапанае. Збожжа так-сяк наскрэблі на натураплату МТС, а яшчэ ж прыйдзецца расплачвацца за іншыя даўгі. Аб працаднях ужо няма і гаворкі. Старшыню Шадуру раён зняў за развал. Людзі адразу казалі: Шадуру не варта ставіць, не будзе толку: удалы толькі на язык, а сам халтама, дома не гаспадар, дзе ён калгас павядзе. Далі на ягонае месца колішняга сельсавецкага фінінспектара, па-тутэйшаму «заганялу», Ваёдзю. Гэты з самага пачатку ўзяў крута. Пастанавіў праўленнем: ніхто не атрымае дзялкі ржышча для сваёй каровы, пакуль не будзе ўбрана да каліва ўсё калгаснае, а хто накосіць самавольна, паплаціцца канфіскацыяй накошанага, штрафам, а то і турмой як за замах на сацыялістычную ўласнасць. Спецыяльная камісія, якую ўзначальваў аб'ездчык Сухавіла, інакш званы Закон-не-Гласіць, шастала па хлявах, па гарышчах, забірала пад чыстую любы падазроны пласт сена. Той-сёй за парою, плачучы, вёў на кірмаш карову.

Сваю Чарнулю яны спадзяваліся пракарміць зіму. Было трохі леташняга сена, з сотак узяў тры добрыя ўкосы канюшыны, нацягаў з прырэчча асакі, прыпарадкаваў бульбоўнік, бурачнік. Без малака не будуць. Накапалі бульбы, ёсць капусты, фасолі, бобу. А як без хлеба? Як без скваркі? Парсюка здалі на пастаўку, а барана і старую авечку прыйдзецца прадаваць: грошы трэба.

Дома яшчэ б так-сяк перабіваліся. А што сястры Любе даць з сабой у педвучылішча? Ужо на астатнім курсе, налета канчае, на свой хлеб выйдзе. Яна, бедная, хацела кідаць вучобу, пайсці куды на будоўлю ці таксама завербавацца, каб не з хаты цягнуць, а ў хату памагаць. Ён і слухаць пра такое не стаў. Хоць Люба на паўтара года старэйшая, але ён цяпер галава ў доме. «Знай сваё — вучыся,— сказаў ёй. — Неяк будзе». Дзеля сястры ён сябе не пашкадуе. Яе хацелі забраць у фэзаво — адбараніў, адваяваў у сельсавеце: не маюць права адбіраць работніка з сям'і загінуўшага франтавіка. Пасля сама рашалася ехаць у Мінск на будоўлю — не пусціў. Адзін знаёмы расказаў яму пра норавы ў горадзе, пра тамашнія рабочыя «абшчагі». Кроў закіпала, калі ўяўляў у тых умовах сястру. На сямейнай радзе пастанавілі цвёрда: Люба і Пятрок будуць вучыцца. Яму ўжо, знаць, не да навукі.

За шэрым алешнікам адкрыўся на шырокім полі хутар Кастуся Кірэя. Вокны свяціліся. Недзе ў самым разгары былі зборы. Лявон прыбавіў ходу.

У панадворку, на відным ад акон месцы, стаяла падвода. Каля яе корпаўся сам гаспадар.

Счуўшы Лявона, ля хлява забрахаў сабака. Кірэй рэзка адхінуўся ад воза, застыў, углядаючыся на дарожку: хто там ідзе? З сяней якраз выйшаў з чамаданам Стась, ладны, рослы, у адной расхрыстанай кашулі, таксама насцярожыўся.

— Свае! — весела гукнуў ім Лявон.

Стась нешта сказаў цесцю — не было чуваць з-за сабачага брэху. Кірэй пераняў ад яго чамадан, стаў прыладжваць між скрынак і хатулёў, а Стась пайшоў пераняць. Тукнуў на сабаку, каб сціх. Павітаўся за руку з Лявонам, забраў сундучок, паклаў на воз.

— Давай і хатуль. — Лявон з ахвотай аблегчыўся і ад заплечніка. — Конь не свой, грузі, не стой, — пажартаваў Стась не дужа што весела. Стары Кірэй пасунуўся ў хату, дзе гуло, як у вуллі, ад многіх галасоў. — Ты знаеш, ужо думалася, што зусім не выйдзе ехаць, — загаварыў Стась заклапочана, нават з дрэнна прыхаванай злосцю. — Цесць пайшоў дагаварыцца пра каня, а тэй паўшабэлак, Васька Шашок, раптам упёрся: «Не дам. Нечага на калхозным транспарце раз'язджаць усякім. На гарбу няхай цягне свае шмоткі». — Лявон не здзівіўся пачутаму. Нядаўна пастаўлены за брыгадзіра Васіль Гулька, па прозвішчы Шашок, гнуў лінію калгаснага начальства: помсціў Стасю Бруйку, што ўцёк з калгаса. Такога работніка не стала: ён і бондар, і цясляр, і столяр. Кастусю Кірэю за зяця нават соткі абрэзалі па клямку, але той дабіўся як інвалід вайны, што гэтае рашэнне было адменена. — Спаганяе сваё, смурод! — адводзіў душу Стась. Лявон чуў, што яшчэ хлопцам ён раз ці два адтрапаў Шашка па вушах. — Дарваліся Шашкі да ўласці. Век за-

# Узыходжанне

**Опера «ФРАНЦЫСК СКАРЫНА» на тэлеэкране**

Навошта дадзена чалавеку жыццё, што яму наканавана здзейсніць у ім? Гэтае пытанне хвалявала людзей усіх эпох. Ці толькі з тым мы прыйшлі ў гэты свет, каб прайсці свой шлях, не ўзвысіўшыся над сумятнёй будняў? Ці здатны чалавек на здзяйсненні, якія будуць служыць прагрэсу грамадства? Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Капернік... Гэтыя асобы знамянуюць цэлую эпоху ў гісторыі.

Францыск Скарына — яшчэ адно імя з плеяды асветнікаў Адраджэння. Адзначаючы ягонае 500-годдзе, мы аднаўляем сувязь часоў, жывім свае нацыянальныя карані. Мы стараемся вызваліць ад векавых напластаванняў часу і ўваскрэсіць жывое аблічча нашых суайчыннікаў.

Так з'явілася мастацкая работа, якая дапамагае нам судакрануцца з жыццём выдатнага вучонага. Гэта фільм-опера «Францыск Скарына», створаны музычнай рэдакцыяй Беларускага тэлебачання дзякуючы садружнасці кампазітара Д. Смольскага і рэжысёра Г. Нікалаева. (Гэта іх другая, пасля фільма-оперы «Сівая легенда», супольная праца).

Кампазітара і рэжысёра прывабіла фігура Скарыны. Але ці можа опера ўзнавіць падзеі жыцця асобы такога маштабу? Вядома, не, ды і наўрад ці гэта трэба. Пра дзейнасць Скарыны, якая пакінула глыбокі след у развіцці беларускай культуры, напісана мноства навуковых даследаванняў і манаграфій. Опера ж — мастацтва пачуццяў. Аўтары імкнуліся паказаць цяжкі, але цудоўны лёс гэтага чалавека, раскрыць яго ўнутраны свет. Таму Д. Смольскі і Г. Нікалаеў пакінулі за сабой права на творчы вымысел. У оперу ўведзены матыў трагічнага кахання галоўнага героя і Маргарыты; не заўсёды гістарычна дакладныя эпізоды жыцця вучонага. Аднак тэлеапавяданне праўдзіва адлюстроўвае атмасферу той далёкай эпохі і дапамагае стварыць пераканальны і цэласны вобраз беларускага асветніка.

З першых хвілін перад гледачом паўстаюць каларытныя карціны XVI стагоддзя (аператар-пастаноўшчык В. Булдык, мастак-пастаноўшчык Г. Холад): архітэктурныя панарамы старадаўніх кварталаў Падуі і Кракава, цудоўныя інтэр'еры замкаў і сабораў. Здавалася б, гэта толькі гістарычны фон, на якім яркім рэльефам вылучаецца пастава Скарыны. Аднак гэтыя карціны надаюць фільму ўзвышанасць і асаблівую прыгажосць. У велічных старадаўніх будынках, у фрэсках і скульптурах перад намі ажывае творчасць майстроў мінулага; мы чуем шум галасоў, што гучалі ў Падуанскім універсітэце шмат стагоддзяў назад. Уся атмасфера гэтых эпізодаў і сцэн перадае дух Адраджэння, яго веліч і моц. На гэтым фоне фігура Скарыны паўстае ў поўны рост.

Сюжэт не вылучаецца вастрынёй: падзей няшмат, хоць дзеянне ахоплівае вялікі адрэзак часу. Мы прасочваем станаўленне характару Скарыны, увесь цяжкі шлях ягонага ўзыходжання—ад выбару жыццёвай мэты да яе дасягнення — праз гады вучобы і ўпартай працы. Невыпадкова таму вядучай у вобразе вучонага робіцца тэма пераадолення: гэта барацьба з сабой, з забабонамі грамадства, з коснасцю і руцінай. Такая трактоўка вынікае з сімфанічна абагульненай драматургіі оперы Д. Смольскага.

Дзеянне (якое развіваецца, на першы погляд, марудна) поўнае драматызму і ўнутранай напружанасці. Характэрныя супастаўленні кантрастных эпізодаў, прынцып уварвання лейттэмы зла—асноўнага музычнага носьбіта канфлікту. Сучасная мова оперы ўключае і прыкметы далёкай эпохі: гэта тэкст сярэдневяковага харалу «Дзень гневу», што зрабіўся ў музычнай літаратуры трагічным сімвалам; рэчытацыя, якая нагадвае царкоўную псалмодыю. Такі стылёвы сплаў стварае абагульнены вобраз эпохі і надае яму сучаснае гучанне.

Жанравых сцэн у фільме амаль няма: гэта вясёлы хор студэнтаў ды ў пачатку карціны сцэнка з манахамі. У цэнтры—фігура Скарыны, яго шлях ад парога бацькоўскага дома да еўрапейскай вядомасці. Вядучым прынцыпам апавядання робіцца погляд галоўнага героя на падзеі. Выканаўцам давялося сутыкнуцца з вядомай цяжкасцю пры стварэнні вобраза, раскрываючы характар у маналогах-разважаннях. Саліст ДАВТа БССР А. Саўчанка, які выканаў вакальную партыю «па-за кадрам», і акцёр тэатра імя Я. Купалы І. Дзянісаў стварылі, на мой погляд, пераканаўчы і псіхалагічна верагодны вобраз Скарыны.

Вялікую ролю ў карціне адыгрывае прыём успамінаў. Ен абмежаваны для такой оперы, у якой унутранае дзеянне пераважае над знешнім. Мы бачым падзеі вачамі галоўнага героя, і дзякуючы гэтаму яны набываюць большую вастрыню і экспрэсіўнасць. Такі, напрыклад, эпізод надання Францыску звання магістра ў Падуанскім універсітэце. На экране наплывам з'яўляюцца фігуры прафесароў, і дыялог з імі надае асаблівую напружанасць традыцыйнай працэдуры, якая тут ператвараецца ў барацьбу выхадца з простага асяроддзя за вышэйшы навуковы тытул, за права на свой шлях у навуцы, за прызнанне беларусаў у Еўропе.

Праз успаміны раскрываецца і характар самога Скарыны. У фільме ёсць лейтвобраз, звязаны з тэмай кахання. У цяжкія хвіліны герой успамінае званіцы сабора ў Полацку, што бялеюць у летняй зеляніне, сваё развітанне з Маргарытай. Так лірычная распеўная мелодыя робіцца сімвалам радзімы, маладосці, светлых спадзяванняў і любові.

Што азначае Скарына для нас? Ці толькі незвычайнасцю свайго лёсу ён прывабіў увагу стваральнікаў фільма - оперы? Ягоныя працы служаць для нас крыніцай пазнання і дабра, а жыццё—прыкладам служэння ісціне і людзям. Усё, што было створана майстрамі папярэдніх эпох, з'яўляецца здабыткам усіх часоў і народаў. Мы ўспамінаем гісторыю не па крывавых войнах, а па ўкладзе народаў у прагрэс чалавецтва. Францыск Скарына, седзячы на пажарышчы сваёй друкарні, гаворыць вучню: «Бессмяротнасць чалавека—у ягоных творах». Перад вачамі гледачоў праходзяць кадры, якія надаюць заключнай сцэне фільма сучаснае гучанне. На экране наплывам з'яўляецца «Сіксцінская мадонна» Рафаэля, якая цудам ацалела ў гады другой сусветнай вайны. Так з трагічнай развязкі фінал фільма ператвараецца ў гімн бессмяротнасці творчасці.

Слаўнае мінулае не памірае. Яно жыве побач з намі, робячы нас багацейшымі і чысцейшымі. І таму герой фільма крочыць з сярэдневяковых залаў універсітэта ў шум гарадской плошчы XX стагоддзя. Ен— наш сучаснік.

**Таццяна ВАЛАЧКОВІЧ.**

# БАЛЕТ: дасягненні, праблемы

**З гаворкі ў тэатры оперы і балета БССР**

Напэўна, ніколі столькі прадстаўнікоў рэспубліканскай прэсы, радыё і тэлебачання не збіраліся адначасова ў кабінеце галоўнага балетмайстра ДАВТа БССР народнага артыста СССР Валянціна Елізар'ева.

Ды яно і не дзіўна. Прэс-канферэнцыя, якая адбылася 12 лістапада, мела назву—«Беларускі балет на замежных сцэнах: цяперашні стан і перспектывы». Правядзенне такой прэс-канферэнцыі, арганізаванай СТД БССР, мела свае падставы. Агульнавядома, з якім вялікім поспехам выступае беларускі балет за межамі нашай краіны.

Усё пачалося паўтара дзесяцігоддзя назад з непрацяглых гастроляў у Венгрыі. І за гэты час трупа аб'ездзіла Заходнюю

*Тэатр*

# ПАТРАБУЕЦЦА САМААХВЯРНАСЦЬ?..

Ужо ці не дзесяцігоддзе пануе сцвярджэнне: наш тэатр знаходзіцца ў крытычным стане. Сёння ж пра гэта гаворыцца так зацята, быццам крызіс узнік раней за сам тэатр і пагражае завяршыць яго гісторыю.

Не думаю, каб канстатацыя крызісу паспрыяла вырашэнню тэатральных праблем. Дый, па шчырасці, сумненне ахоплівае мяне пры слове «крызіс». Паказальна ў гэтым сэнсе яго «дачыненне» да Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, па якім традыцыйна (і справядліва!) звяраюцца творчыя параметры іншых калектываў рэспублікі.

Год таму час «зрэжэсіраваў» прэм'еру купалаўцаў «Страсці па Аўдзею» («Крык на хутары») У. Бутрамеева і завяршэнне дыскусіі пра сучасны стан купалаўскай сцэны ў часопісе «Мастацтва Беларусі». Ен самы, час, наглядна выявіў разыходжанні паміж работаю тэатра і сведчаннем крытыкаў. Аналіз, праведзены імі з нейкім абвінаваўчым ухілам, канстатаваў канчаткова і беспаваротна: усеахопны, хранічны крызіс. Практычна аднадушна прызнавалася, што тэатр стаіць на мяжы мастацкага і грамадскага краху. Тэатр тым часам падвёў сваю «рысу» — поўны высокай трагедыі спектакль «Страсці па Аўдзею» рашуча абвяргаў «дыягназ» як вынік нецярплівага крытыканства. Аб'ектыўна тэатр стаяў на парозе творчай перамогі, і, безумоўна, перамог.

Цяпер падставай для гаворкі пра крызісны стан купалаўскага тэатра нечакана становіцца тое, што за апошні год тут ажыццёўлены толькі дзве ўдалыя пастаноўкі (пэўна, маюцца на ўвазе «Страсці па Аўдзею» ды «Памінальная малітва» Р. Горына паводле твораў Шолам-Алейхема). Цікава, а колькі іх трэба мець для поспеху?..

...Святам тэатра сталася выступленне артыста з паўночнай Ірландыі Б. Дж. Хога. На купалаўскай сцэне ён сыграў ролю Андрэя Буслая ў спектаклі «Парог» А. Дударава. Прыўзняты настрой апаноўваў адразу—толькі ад прадчування таго, як сыдуцца ў драматычным дыялогу англійская і беларуская мовы. Гэты настрой шырыўся і паглыбляўся, калі ад спалучэння дзвюх моў у пастаноўцы нараджаліся вельмі нечаканыя адценні і зрухі, што, дарэчы, пэўным чынам пераўтварыла спектакль.

Дасканаласцю, нават вытанчанасцю выканання ўразіла работа Б. Дж. Хога. У вобразе, які ён стварыў, быццам полымем апякала затоенае пачуццё ўласнай годнасці Буслая, які ўжо ступіў за парог чалавечага існавання.

Узрушыў і сам факт сустрэчы. Яна дазволіла і беларускім гледачам своеасаблівa дачыніцца да пастаноўкі беларускай п'есы ў далёкім Белфасце (рэж. В. Раеўскі). А рашэнне артыста пералічыць сродкі ад спектакляў на дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі

# ПА ВЯРБОЎЦЫ

(Пачатак на стар. 8—9).

каня, узяўся за лейцы. Стась з Лявонам пайшлі да свайго воза: зараз тут пачыналіся слёзы і ўздыхі развітання.

Калі ўжо былі за паўвярсты ад Падазерцаў, сярод цішыні і маркоты засмужаных палёў, Стась папрасіў Язэпа, які ішоў трэцім паміж ім і Лявонам:

— Сыграў бы што? Які-небудзь «Паследні нонешні дзянёчак...» — На яго недаўменна зірнулі з калёс Яніна, Ганя, і ён паправіў сам сябе: — Мусіць, адпялі, адтанцавалі сваё.

Язэп не згадзіўся:

— Дай толькі на месца прыехаць. Такую вечарыну зладзім. Польку зрэжам на сем кален... Эстонцы ж, нябось, таксама polькі танцуюць?

— Так станцуем, як іграць будуць, — сумна прадвясціў Стась.

— Нас жа многа будзе, беларусаў, — не паддаваўся ягонаму настрою Язэп.—Мы во едзем, ужо столькі народу... Збяромся сваім кагалам, як утнём, толькі тэтар пойдзе.

— Язэп ты Язэп. — Стась абярнуўся з ухмылкай. — Дома жывём, адзін з адным грызёмся. А там беларус і прызнавацца не хоча да беларуса... Што казаць: каторы і аказвацца саромеецца, што беларус. Калі каталік, дык ужо ён паляк. Калі праваслаўны, дык расеец.

—Чаго мы гэдакія? — ад душы пабедавала Яніна.

Дарогу перасякаў ручай, які выйшаў з берагоў, разліўся перад мастком. Падводы папаўзлі па суцэльных лужынах, а Стась, Язэп і Антон мусілі пераскокваць з грудка на грудок, каб не замачыць ног. Калі зноў сышліся ўсе разам, перарваная гаворка ўжо не аднавілася.

Неўзабаве выбраліся на бальшак. Абапал раслі старыя, разгалістыя бярозы, злучаючыся ўгары голымі, у чорных нарасцях і сівых лішаях па белай кары сукамі. Апошнія год-два Лявон нахадзіўся бальшаком у мястэчка, каб купіць у краме які бохан хлеба, і пад гэтымі бярозамі яго заўсёды агортваў сцішнаваты, шчымлівы одум. Вот узраслі яны і стаяць тут гадамі. Добра ці кепска, а не сыдуць нікуды, да канца астаюцца з гэтай зямлёй. Каго толькі ні перабачылі і ні перачулі, хто ішоў ці ехаў міма! Аб чым маўчалі? Што б сказалі, каб маглі гаварыць?

Уперадзе ля самага бальшака зацямнеў у прывідным паўсвятле гаёк стройных бяроз. Чорнымі шматкамі ўблыталіся ў пруцце вяршалін пакінутыя да вясны птушыныя гнёзды. Унізе, між камлёў, сталі вырысоўвацца магільныя крыжы. Два-тры святлейшыя, адзін зусім белы, а болей абымшэлыя, паніклыя.

— Усе там будзем, — прашапялявіў з падводы Хуцкі.

Ніхто яму не адгукнуўся. Толькі параўняўшыся з магільнікам, Стась прамовіў задуменна:

— Мы дык, мусіць, там будзем... Яны тут, у сваёй зямельцы.

Лявон ужо не змог стрываць гнятлівай тугі, што перапоўніла душу.

— Што, і вярнуцца назад не збіраемся? І памром не дома?

— І праўда, — падтрымала Ганя. — Не можа быць, зменіцца нешта і ў нас да лепшага.

— Дай нам Бог, — пакорліва адказаў Стась.

І зноў змоўклі.

У вёсцы, якую неўзабаве праязджалі, да іх далучыліся яшчэ дзве сям'і вербаванцаў на падводах і двое пешых, нежанатых хлопцаў. Далей ужо працягвалі шлях невялікім абозам.

## Працяг размовы

**У «ЛіМе» за 6 ліпеня г.г. быў апублікаваны артыкул С. Гарбаўца «Ці патрэбна нам нацыянальнае войска!» Публікацыя выклікала чытацкую пошту. Частку яе прапануем увазе чытача.**

# КАМУ ВЫРАШАЦЬ?

Лагічна меркаваць, што колькасць і месца дыслакацыі вайсковых часцей на тэрыторыі рэспублікі павінна знаходзіцца ў кампетэнцыі яе ўрада. Да гэтага і хацеў прыцягнуць увагу народны дэпутат БССР прафесар Р. Вячэрскі ў адным са сваіх выступленняў у Вярхоўным Савеце. Ён выказаў думку, што на тэрыторыі Беларусі «занадта многа ваенных». Чым, відаць, і напалохаў многіх з іх. Ужо праз пару дзён газета Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины» друкуе «Нататкі на палях чатырох выступленняў», у якіх называе клопат Р. Вячэрскага «весьма своеобразным». Аўтар, падпалкоўнік С. Пятроў, хаця і агаворваецца, што думка народнага дэпутата аб неабходнасці забеспячэння дэпутацкага кантролю ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі, у тым ліку і за дзейнасцю Узброеных Сіл, — слушная, вырашае ўсё ж пусціць у ход «цяжкую артылерыю». Дзеля гэтага ён выкарыстоўвае меркаванні аб выступленні прафесара двух дэпутатаў-вайскоўцаў. Адзін з іх, старшы лейтэнант В. Кучынскі, перакананы ў тым, што бяспека нашай краіны (маецца на ўвазе Савецкі Саюз. — Я. Р.) патрабуе і пэўных рэспубліканскіх выдаткаў. Але ж колькі можна марнаваць грошы з жабрацкага бюджэту рэспублікі? І гэта ў той час, калі мінабароны, камандаванне БВА трымаюць у вялікім сакрэце, на што ідуць грошы, адлушчаныя ім рэспублікай. Вось тут і патрэбен дэпутацкі кантроль... На жаль, не ўсе дэпутаты з гэтым згодны.

Другі дэпутат - вайсковец, прапаршчык В. Зяленін, з якім нас знаёміць газета «Во славу Родины», выказвае такі пункт гледжання: «Ісціна простая,— рэспубліка ў складзе СССР карыстаецца аховай Узброеных Сіл, і гэтым усё сказана».

Можа, і на самай справе ўсё так проста, як жадае давесці шаноўны прапаршчык? І зусім неабавязкова ведаць, як распараджэцца ваеннае міністэрства сродкамі тых, хто плаціць падаткі? Ну, не рассакрэчваць жа перад парламентам рэспублікі фінансавыя выдаткі на такую «абарону», як, напрыклад, утрыманне і забеспячэнне двухпавярховага асабняка камандуючага войскамі акругі з садам, вялікім гаражом, якія займаюць ледзь не паўквартала. А аўтапарк з некалькіх машын? А самалёт з верталётам? Ці так ужо спрыяе ўсё гэта нашай абараназдольнасці? Дарэчы, нядаўна адзін мой знаёмы афіцэр, кіяўлянін, расказваў пра тое, што камандуючы Кіеўскай ваеннай акругі генерал-палкоўнік Громаў (былы камандуючы арміяй у Афганістане) жыве са сваёй сям'ёй у звычайнай трохпакаёвай кватэры.

Давайце паразважаем яшчэ вось пра што. У бліжэйшы час войск у Беларусі пабольшае. І перш за ўсё—за кошт размяшчэння ваенных злучэнняў, выведзеных з Венгрыі і Чэхаславакіі. У колькі гэта абыдзецца Беларусі? Каму, як не Вярхоўнаму Савету рэспублікі, вырашаць гэтыя пытанні?

Так, без нацыянальнага войска нельга ўявіць Беларусь ні суверэннай, ні самастойнай. Народ павінен ведаць: каго ён корміць і апранае і што з таго мае? Мне здаецца, што менавіта нацыянальныя вайсковыя фарміраванні найбольш поўна адпавядаюць гэтай жыццём прадыктаванай формуле.

Другая справа—якое гэта павінна быць войска, па якіх прынцыпах будавацца. Не па ўсіх пунктах можна тут пагадзіцца з С. Гарбаўцом. Што азначае, напрыклад, фраза: «Прэзідэнт рэспублікі мог бы ў выпадку ўнутранага канфлікту ў рэспубліцы, згодна з яе законамі, выкарыстоўваць падпарадкаваныя яму войскі дзеля падтрымання парадку і забеспячэння бяспекі грамадзян»? Гэта не што іншае, як выкарыстанне войска не па прызначэнні. Ёсць жа войскі Міністэрства ўнутраных спраў. Далей аўтар сцвярджае, што нацыянальныя вайсковыя злучэнні павінны ў першую чаргу ствараць ў сухапутных войсках і ў войсках супрацьпаветранай абароны. Я лічу, што ў першую чаргу нам патрэбны

# РЭСПУБЛІКА, СУВЕРЭНІТЭТ, АРМІЯ

(Пачатак на стар. 3).

малёты з радыусам дзеяння на многія тысячы кіламетраў, якія нельга развесці па нацыянальных кватэрах. У сувязі з гэтым хачу заўважыць, што кожная армія, як ніякі іншы дзяржаўны інструмент, інтэрнацыяналізавана па сваіх мэтах і задачах, паколькі яе місія ўшчыльную судакранаецца з інтарэсамі як асобных дзяржаў, так і іх саюзаў. Па-за гэтым армія губляе сэнс, набывае характар аперэтачнай, бутафорнай арганізацыі.

**— Тым не менш, цяжка ўявіць суверэнную дзяржаву без сваёй арміі...**

— Але ж Беларусь з'яўляецца суверэннай дзяржавай у складзе СССР, навошта ж ёй мець нацыянальнае войска? Дзеля прэстыжу? Ніхто ж яе суверэнітэту ў краіне не пагражае. Што ж тычыцца небяспекі, якая заўсёды нам пагражала з захаду, дык тут Беларусь можа спакойна абаперціся на Узброеныя Сілы краіны, якія не дадуць яе ў крыўду. Мае апаненты — прыхільнікі нацыянальных беларускіх фарміраванняў — не ўлічваюць усіх складанасцей гэтай справы. Свае Узброеныя Сілы? У такім выпадку ў рэспубліцы неабходна будзе ствараць Міністэрства абароны з усімі адпаведнымі структурамі, ваенныя акадэміі і вучылішчы, бо не будзеш жа запрашаць ваенных спецыялістаў з іншых рэгіёнаў краіны. А ўзбраенне? Як вядома, у рэспубліцы не вырабляюцца ні сучасная ракетная тэхніка, ні танкі, ні самалёты і верталёты... Логіка падказвае, што функцыі абароны краіны павінны належаць Цэнтру, якому іх дэлегуюць рэспублікі, у тым ліку і Беларусь. Я прыхільнік адзінай саюзнай арміі, безумоўна, пры яе карэнным рэфармаванні, строгім і паслядоўным захаванні яе баявой магутнасці на падставе ўсебаковага ўліку інтарэсаў і правоў суверэнных рэспублік, іх узаемнай адказнасці за бяспеку краіны.

**— Вы не адказалі на пытанне, чаму нельга зрабіць так, каб усе беларускія прызыўнікі праходзілі ваенную службу ў сваёй рэспубліцы? Дарэчы, колькі ў нас іх застаецца?**

— Пятая частка. Хачу заўважыць, што ступень падрыхтоўкі прызыўнікоў з Беларусі досыць высокая і яны накіроўваюцца для службы пераважна ў найбольш адказныя і тэхнічна складаныя роды войск.

**— Слабае суцяшэнне... Але ж вярхоўнымі органамі ўлады Украіны, Малдовы, рэспублік Закаўказзя, Прыбалтыкі прыняты пастановы аб праходжанні воінскай службы іх прызыўнікамі толькі на тэрыторыі нацыянальных утварэнняў. А ў нас па-старому....**

— Але і ніхто не адмяняў Закон аб воінскім абавязку, які вызначае, хто павінен несці воінскую службу. А дзе несці, вырашае, зыходзячы з патрэбнасцей, Міністэрства абароны СССР. У рэшце рэшт, і я хацеў бы, каб нашы прызыўнікі заставаліся ў рэспубліцы — і дом блізка, і служаць яны лепей за іншых. Але ж мы павінны кіравацца інтарэсамі ўсёй дзяржавы. Не бачу ніякай трагедыі ў тым, што да нас прыедуць служыць прызыўнікі з Узбекістана, Казахстана, іншых рэспублік.

**— У нашай газеце быў нядаўна надрукаваны артыкул прафесійнага вайскоўца, у якім ён апавядаў, як складана прымаць у рэспубліцы тое «чужое» папаўненне. Варта афіцэру страціць пільнасць, як паміж прызыўнікамі з канфліктуючых рэспублік усчынаецца бойка. А што будзе, калі гэтыя маладыя салдаты атрымаюць доступ да штатнай зброі? — пытаецца аўтар артыкула.**

— Гаворачы пра шматнацыянальныя воінскія калектывы, вядома, нельга не ўлічваць падзеі, што адбываюцца ў тых альбо іншых рэгіёнах краіны. Тут з асаблівай вастрынёй усплываецца кожны неабдуманы ўчынак і жэст, кожнае неасцярожнае слова таварышаў. Мы, безумоўна, улічваем у сваёй рабоце спецыфіку міжнацыянальных адносін, робім усё магчымае, каб нейтралізаваць разбуральную атруту нацыяналізму. У адрозненне ад вашага аўтара, не падзяляем салдат на сваіх і чужых. Заўсёды памятаем, што ўсе яны дзеці нечых мацярок і бацькоў. Іх чакаюць дома, чакаюць са спадзяваннем сустрэць узмужнелага, моцнага не толькі целам, але і духам маладога чалавека.

**— Мяркуючы па паведамленнях сродкаў масавай інфармацыі, сёлета ў нашай рэспубліцы ўзніклі пэўныя праблемы з правядзеннем чарговага прызыву ў армію. Чым гэта вытлумачыць?**

— На мой погляд, справа ў тым, што парламентарыі, шэраг грамадскіх груп і аб'яднанняў у сваіх дзеяннях апярэджваюць нараджэнне новай прававой асновы ўзаемаадносін Цэнтра і рэспублікі. Спрадвеку фарміруе ў свядомасці людзей права і абавязак абараняць Айчыну падвяргаецца паслядоўнаму разбурэнню, на змену прыходзяць далёка не бяскрыўдныя лозунгі, якія адлюстроўваюць палітычную кан'юнктуру сённяшняга дня без погляду ў будучае. У нашай гісторыі падобнае ўжо было. Разбураць да грунту прасцей, чым ствараць. Цяпер нам, як ніколі, патрэбны стабільнасць і адзінства ўсіх здаровых сіл, у тым ліку і ў вырашэнні абаронных пытанняў. Пра гэта, а таксама пра павышэнне аўтарытэту ўлады, умацаванне дысцыпліны і правапарадку ў спалучэнні з далейшай дэмакратызацыяй усіх бакоў грамадскага жыцця востра гаварылася на нядаўняй сустрэчы Прэзідэнта краіны з вайскоўцамі — народнымі дэпутатамі.

**— Але ж не сакрэт, што многія маладыя людзі баяцца, што ў арміі будуць здзекавацца з іх чалавечай годнасці, баяцца той самай «дзедаўшчыны», якая, па чутках, правіць у арміі баль. Літаральна днямі рэдакцыя атрымала ліст ад гамяльчанкі Галіны Зіманаўны Далгушэнкі, якая напісала, што ў першы ж месяц службы яе сын быў так збіты «дзядамі», што трапіў у шпіталь. На адчайныя просьбы маці больш яго ў тую часць не пасылаць камандаванне ніяк не зрэагавала, і сына вярнулі на старое месца, дзе яго зноў жорстка збілі. Не вытрымаўшы здзекаў, хлопец збег з часці і невядома дзе знаходзіцца. Жахлівы ліст...**

— Так, гісторыя не з вясёлых... Яна мне знаёмая. Салдат гэты праходзіў службу ў Падмаскоўі. Але хачу сказаць, што «дзедаўшчына» — не «вынаходніцтва» арміі, з'ява гэта—люстэркавы адбітак негатыўных працэсаў, што адбываюцца ў грамадстве. Дадамо, што пэўная частка моладзі, якая трапляе ў войска, нясе на сабе «радзімыя плямы» жыцця на «волі», дзе і п'янства, і наркаманія, і прастытуцыя... І ўсё-такі, выпадкаў «дзедаўшчыны» ў нас становіцца менш. Пра сур'ёзнасць нашых намераў вынішчыць гэтую пачварную з'яву сведчыць хоць бы той факт, што пра кожны выпадак «дзедаўшчыны» дакладваюць непасрэдна мне, камандуючаму войскамі акругі, а я, у сваю чаргу, — міністру абароны СССР Д. Язаву. Інфармацыя дастаткова аб'ектыўная.

**Анатолій Іванавіч паказвае мне кнігу ўліку «подзвігаў» тых «дзядоў». «Бачыце,—кажа ён,—за апошні тыдзень зафіксавана толькі шэсць выпадкаў парушэння статута ў адносінах паміж салдатамі».**

**— Вы ўпэўнены, Анатолій Іванавіч, што вам дакладваюць пра ўсе выпадкі «дзедаўшчыны»? Мне даводзілася чуць, што некаторыя афіцэры ставяцца да яе станоўча, лічачы, што «дзяды» дапамагаюць «трымаць» сярод салдат дысцыпліну, выхоўваць у іх страх і пакорлівасць.**

— Гэта, праўда, даволі распаўсюджаная думка, зусім не адпавядае ісціне. Трэба думаць, некаму вельмі хацелася б бачыць нашу армію такой, якая трымаецца на страху і пакорлівасці, выхаванай кулаком. Паказальны ў гэтым плане кінафільм «Рабі — раз!», які, на думку яго аўтараў, нібыта ставіць мэтай барацьбу з «дзедаўшчынай». Але ці можа такая «чарнуха» зарыентаваць нашу моладзь на добрыя справы, ці лепшае выйсце з крытычнай сітуацыі яна падказвае? Павінен прама сказаць, фільм гэты — непрыхаваны, злосны паклёп на армію.

Савецкімі законамі і статутамі нам дадзена дастаткова правоў, каб падтрымліваць свядомую дысцыпліну.

**— У грамадстве даўно ўмацавалася думка, што салдат наш фактычна бяспраўны, цалкам залежыць ад прыхамаці бацькі-камандзіра.**

— Гэта даўно адкінутае жыццём стэрэатыпнае ўяўленне пра нашу армію. Мы сталі на шлях глыбокай рэформы нашых Узброеных Сіл. Тэма гэта складаная, патрабуе асобнай гаворкі. Спынюся толькі на некаторых яе момантах. У Вярхоўны Савет краіны прадстаўлены праекты законаў СССР аб абароне, аб усеагульным вайсковым абавязку і ваеннай службе, аб статусе ваеннаслужачых Узброеных Сіл. Не кранаючы іх зместу ў цэлым, скажу, што яны досыць ёмістыя, з улікам дэмакратызацыі нашага грамадства вызначаюць і пашыраюць агульнаграмадзянскія правы і свабоды ваеннаслужачых, у тым ліку і тэрміновай службы. Цэлы шэраг зменаў уносіцца ў парадак праходжання ваеннай службы. Прадугледжваецца, побач з тэрміновай, і ваенная служба салдат, матросаў, сяржантаў і старшынаў па кантракце, а таксама пазавайсковая (альтэрнатыўная) служба, значнае павышэнне ім грашовага ўтрымання, прадастаўленне за ўвесь перыяд службы аднаго абавязковага водпуску з выездам да месца яго правядзення тэрмінам на 20 дзён салдатам і матросам, 25 дзён — сяржантам і старшынам, страхаванне за кошт Міністэрства абароны СССР іх жыцця і здароўя. Вы ведаеце, што не так даўно Прэзідэнтам СССР прыняты спецыяльны ўказ, які абараняе правы ваеннаслужачых. Разглядаецца пытанне аб прадастаўленні ім права абскарджваць у ваенным трыбунале неправамерныя дзеянні службовых асоб і органаў ваеннага ўпраўлення, якія выходзяць за межы статутных адносін.

**— Існуе думка, што павышэнне грашовага ўтрымання салдат, якое, вядома, трэба вітаць, аб'ектыўна прывядзе да павелічэння грашовай масы ў рэспубліцы. На наш нішчымны таварны рынак абрынуцца дадатковыя дзесяткі мільёнаў рублёў, што, безумоўна, паспрые далейшаму росту цэн, эскалацыі інфляцыі.**

— Не падзяляю гэтай трывогі. Павышэнне салдацкай зарплаты — справа не сённяшняга дня. А да таго часу, калі гэта стане рэальнасцю, спадзяюся, рынак наш стабілізуецца і «дадатковыя» грошы яму не пашкодзяць.

**— Ва Узброеных Сілах у мірны час гіне шмат ваеннаслужачых, яшчэ больш калечыцца. Ніхто за гэта не хоча несці адказнасць, аб чым, дарэчы, нядаўна гаварылася на сустрэчы салдацкіх мацярок з Прэзідэнтам краіны...**

— Пагадзіцца з вамі азначала б саграшыць супраць праўды. Адказнасць і не малую за кожны няшчасны выпадак нясуць вінаватыя. На гэта, дарэчы, нацэлены і раней названы ўказ Прэзідэнта. Што можа быць даражэй за жыццё і здароўе людзей? І асабліва горка, калі няшчасці адбываюцца ў выніку парушэння мераў бяспекі, недысцыплінаванасці або слабаволля маладых хлопцаў.

**— Вы, таварыш камандуючы, расказваеце пра ваенную рэформу, распрацаваную Міністэрствам абароны СССР, але ж, як вядома з паведамленняў друку, існуюць і яе альтэрнатыўныя праекты. Таго ж маёра Лапаціна, як і вы, народнага дэпутата СССР. У яго праекта ёсць нямала прыхільнікаў...**

— Альтэрнатыўныя канцэпцыі ваеннай рэформы мне знаёмыя. Яны не беззакорныя. Побач з рацыянальным зернем у іх ёсць шмат неабгрунтаваных прапаноў і не да канца прадуманых лозунгаў. Канцэпцыя ваеннай рэформы, распрацаваная Міністэрствам абароны, грунтуецца не на пустым месцы. Яна ўвабрала ў сябе ўсё самае каштоўнае, што прапаноўвалася грамадскасцю, у тым ліку і аўтарамі альтэрнатыўных праектаў. Гэта, заўважу, было асабліва падкрэслена ў дакладзе Прэзідэнта СССР М. С. Гарбачова на сесіі Вярхоўнага Савета СССР 16 лістапада. Канцэпцыя ваеннай рэформы разгледжана, у цэлым адобрана на пасяджэнні Савета абароны краіны і хутка стане на парадак дня ў Вярхоўным Савеце Саюза. Яна мяркуе рэарганізацыю Узброеных Сіл і абароннай прамысловасці, у сувязі з чым будзе прынята больш як 30 законаў, прававых актаў і палажэнняў.

# Каб душэўна разняволіцца...

**Невядомае пра І. Замоціна**

У жыцці гэтага чалавека шмат здзіўляючага. Знаўца васьмі замежных моў, буйнейшы дарэвалюцыйны аўтарытэт сярод даследчыкаў рускай літаратуры 18—19 стст., прафесар Варшаўскага і рэктар Данскога універсітэтаў, дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР і член-карэспандэнт АН СССР, адзін з першых беларускіх акадэмікаў, блізкі сябра Я. Купалы і Я. Коласа, «расеяц» па нацыянальнасці (як было прынята пісаць у 20—30-я гады) і выдатны знаўца методыкі выкладання беларускай мовы і літаратуры, літаратурны крытык і... паэт. Праўда, апошняе з пералічанага рэдка хто і ведаў, бо свае паэтычныя творы адзін з пачынальнікаў беларускага савецкага літаратуразнаўства Іван Іванавіч Замоцін ніколі не публікаваў. Пісаліся яны ў вольную хвіліну, іншы раз незаўважна для самога сябе, як даўні ўспамін юнацтва і душэўная патрэба сталасці і вопыту. Выхаваны на традыцыях класічнай рускай літаратуры, добра разумеючы матывы і парыванні маладых беларускіх літаратараў таго часу, ён свае вершы і нават цэлыя паэмкі не лічыў за паэзію. Для яго яны былі як магчымасць душэўна разняволіцца, гумарам і сяброўскім шаржам адказаць на першыя спробы прыпісаць яму варожасць і нацдэмаўшчыну.

Напружаную працу вучонага спыніў вобыск на кватэры і арышт 4 красавіка 1938 г. Тая ж жахлівая ноч назаўсёды ўрэзалася ў памяць дачкі акадэміка Таццяны Іванаўны — студэнткі-выпускніцы педагагічнага інстытута. Колькі мужнасці і смеласці трэба было мець ёй з маці, каб ураваць ад усюдыісных памагатых НКУС хоць што-небудзь з творчай спадчыны Івана Іванавіча! Толькі дзякуючы ёй — былой настаўніцы рускай мовы і літаратуры ў п. Паўлава пад Ленінградам — мы можам сёння ацаніць не толькі ўклад Замоціна-літаратуразнаўцы, але і яго дасціпнасць, майстэрства самаіроніі, уменне ўвасобіць думку ў паэтычным вобразе.

З дазволу Таццяны Іванаўны прапануем ўвазе чытачоў невялікую паэму-шарж І. Замоціна, напісаную 5—6 лістапада 1935 года. Гэты год, зрэшты, як і ўсе папярэднія гады жыцця акадэміка ў Мінску, быў асабліва насычаны. Ён рыхтуе манаграфію, прысвечаную творчасці Я. Коласа, піша пра Я. Купалу і Ц. Гартнага, рэдагуе зборнік артыкулаў, актыўна выступае з лекцыямі і гутаркамі перад грамадскасцю рэспублікі. Толькі ў студзені—сакавіку ён прачытаў дзевяць лекцый у доме вучоных, у Саюзе пісьменнікаў БССР, гарадскім камітэце камсамола і кабінеце рабочага чытача, у доме Чырвонай Арміі і інш. У гэтым годзе ён пачынае падрыхтоўку вялікага даклада, прысвечанага прабleме вывучэння гісторыі беларускай старажытнай і сучаснай літаратуры, з якім у студзені 1938 г. выступіць на сесіі АН СССР.

Паэма, напісаная ў стылі парадыйнай літаратуры, прысвечана супрацоўнікам Інстытута літаратуры і мастацтва (скарочана «Лім») Беларускай Акадэміі навук, дзе ў той час працаваў І. Замоцін. Хто лепш за яго мог ведаць клопаты і праблемы моваўзнаўцаў і літаратуразнаўцаў, асабістыя схільнасці і здольнасці кожнага з навуковых працаўнікоў? Таму і ўзяўся першы дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва «прапясочыць» сябе і сваіх калег па працы. Таму і атрымаліся яны ў паэме такімі жывымі і непасрэднымі. Ну а сама мараль паэмы — гэта ўжо сам дырэктарскі погляд на працу, імкненне падштурхнуць кожнага да плённай працы. Зрэшты, мяркуйце самі.

□

Наш Лім работает примерно,
Растет хоть медленно, но верно.
Но груз «внеплановых» работ
Корабль наш сильно накреняет,
Идти вперед ему мешает, —
И он скрипит, а не плывет.
Один уходит в педработу,
Другой — в домашнюю заботу,
Иному нужно на курорт, —
Минуя планы, директивы,
У нас в работе все ретивы,
А план наш валится за борт.
И потому совсем не диво,
Что все у нас не то что криво,
Не то чтоб очень нерадиво,
А как бы двинуться не в лад —
Не то вперед, не то назад.
Над темой млеют аспиранты,
Молчат глубоко докторанты,
Подался Ляпич как-то в бок,
И в сферах разных «даручэній»
И корректурных изменений
Порхает вечно Голубок.
«Выданне твораў» — без призора,
Бригада ждет своих дельцов;
Все признают это без спора,
Да нет — вы видите — часов;
Куницкий всей душой готов,
Но вряд ли сможет очень скоро...
А тут еще укор нам «в бровь»,
В связи с проблемой коридора
Скорбит Фигловская Любовь.
Гремят « нарады» и «загады»,
Хоть исполнять их мы и рады,
Они нас вряд ли одновят.
Но без директорской микстуры
Ни «мовы», ни «літаратуры»
Желудки все уж не варят.
И вот картина вам пером:
«Літаратура» за столом
(Она не то чтобы типична,
Но болей-менее обычна).
Сидит с «натруджанай» работой,
За болтовней и за зевотой
Проводит «акадэм»-часы, —
Крутит с улыбкой папиросу,
Пускает лихо дым из носу
И всю науку и усы
Коптит, как кольца колбасы.
А вот и «мова» рядом с нами:
Крючком согнувшись над столом,
Не месяцами, а годами,
Трудолюбива и скромна
Сидит на «літарах» она.
Обзор окончен. Он не сказка.
А не гипербола-ль?
Не шаржировал ли он? Едваль.
Отсюда следует мораль:
Нужна нам крепкая увязка
С работой нашей основной,
Конкретной, нужной и живой.
Работать надо всей душой,
Работать без «головомойки»,
Держаться темпов нашей стройки,
Работать не для «справаздач» —
Для наших творческих задач.
И знать, что поздно или рано
Сростись с работой нужно нам,
А не дежурить по часам,
И что работа мимо плана
Бывает только тем ценна,
Где плану наруку она.

**М. ПРЫГОДЗІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# НА ФОТАЗДЫМКАХ І Ў ЖЫЦЦІ

У вёсцы Гнезна Ваўкавыскага раёна знаходзіцца вядомы помнік беларускай готыкі XVI ст. Міхайлаўскі касцёл. Вельмі не падобны ён на свае фотаздымкі ў розных выданнях. Дах касцёла абваліўся, зараз разбураюцца сцены, унутры будынінны ўзвышаецца гара рознага смецця. Яшчэ і сёння ў многіх дварах Гнезна ляжаць кучкі дахоўкі, якая была прызначана для рэстаўрацыі касцёла, што мелася адбыцца ў канцы 30-х гг. Тады аднаўленню будынка перашкодзіла вайна. Але не адрамантавалі помнік ні па вайне, ні апошнім часам.

А хіба адзін ён у такім стане? Паступова разбураюцца і гінуць такія выдатныя помнікі беларускай архітэктуры XVI—XVIII стст., як Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержані (Стаўбцоўскі раён) і Андрэеўскі касцёл у Слоніме. Па сённяшні дзень мясцовымі ўладамі не зроблена нічога, каб хоць бы прыпыніць гэты працэс.

На волю лёсу кінуты і такія вядомыя помнікі архітэктуры XVI—XVII стст., як Кальвінскі збор у Першамайску (Уздзенскі раён), касцёлы ў Міры (Карэліцкі раён), Ражанцы (Шчучынскі раён), Мікалаеўская царква (пачатак XIX ст.) у Гомелі і многія іншыя. Няўжо дваццатае стагоддзе стане апошнім у гістарычнай біяграфіі гэтых і іншых помнікаў беларускай культуры, а нашы нашчадкі будуць знаёміцца з імі толькі па фотаздымках?

Да гэтага размова вялася пра пакінутыя культавыя будынкі. А колькі яшчэ цэркваў і касцёлаў выконваюць зараз функцыі, якія ні ў эстэтычным, ні ў маральным сэнсе несумяшчальныя з іх прызначэннем: у іх размешчаны зернясховішчы, склады, вытворчыя цэхі. У гарадскіх пасёлках Вялікая Бераставіца, Зэльва, Карэлічы не знайшлі нічога лепшага, як размясціць у мясцовых касцёлах прыёмныя пункты шклатары. Куды больш карысці прынесла б стварэнне ў гэтых будынках такіх культурных цэнтраў, як музеі, выставачныя і канцэртныя залы і г. д. Зрэшты, нельга не ўлічваць і інтарэсы вернікаў.

Як ні прыкра, але ў справе аховы помнікаў гісторыі і культуры мы далёка адсталі ад сваіх бліжэйшых суседзяў — літоўцаў, палякаў, украінцаў. Яны чамусьці ўмеюць знайсці і сродкі, і матэрыялы, і майстроў, каб зберагчы сваю культурную спадчыну. А мы?

**В. ШАБЛЮК,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**




**З 3 ПА 9 СНЕЖНЯ**

**4 снежня. 21.55.**

**ЛІРА**

Мастацка - публіцыстычная праграма прысвечана Т. Р. Шаўчэнку.

**7 снежня. 18.30.**

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна - мастацкі часопіс прысвечаны культурнаму жыццю г. Наваполацка.

**7 снежня. 21.45**

**ГАВОРЫМ ПА-БЕЛАРУСКУ**

Урокі А. М. Белакоза.

Гледачы пазнаёмяцца з экспазіцыяй Гудзевіцкага літаратурна - этнаграфічнага музея. Чарговы ўрок Белакоз правядзе ў зале зёлак. Гаворка пойдзе не толькі пра назвы зёлак, але і пра тое, як імі карысталіся нашы продкі.

**8 снежня. 11.15**

**«ЗАПАВЕТ НА ДАЛЬНІ ШЛЯХ»**

Прысвячаецца настаўніку музыкі А. А. Новікаву з г. Жодзіна. Яго споведзь дае падставы для роздуму і тым, хто ўпэўнены ў сваіх сілах, і тым, хто зняверыўся.

**8 снежня. 20.00**

**ЛІТАРАТУРНЫ ТЭАТР**

У. Скарынін. «Тры сустрэчы з Міхаілам Глінскім».

Інсцэніроўка апавядае пра славутага ваяводу Міхаіла Глінскага. Падзеі адбываюцца на пачатку XVI стагоддзя.

У ролі Глінскага—артыст В. Галуза.

**8 снежня. 22.40**

**АЛЯКСАНДР МАЛІНІН У ВІЦЕБСКУ**

Прагучаць лепшыя песні артыста, адбудзецца гутарка са спеваком.

**9 снежня. 16.15**

**А. АСТРОЎСКІ. «ЖАНІЦЬБА БАЛЬЗАМІНАВА».**

Спектакль вучэбнага тэатра БДТМІ. Рэжысёр - пастаноўшчык У. Забэла.

**9 снежня. 19.20**

**ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ**

Народны артыст БССР Г. Гарбук.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.